© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

17 студзеня 2003 года

№ 3 (404)
Выходзіць па пятніцах

ПАКС Тэлетыдзень



**Навіны рэгіёну**

## Хворым дзеткам

ВАЛОЖЫН. У дзіцячым садзе №5 райцэнтра адкрылі 2 санаторныя групы для хворых дзецей. У асноўным з захворваннямі дыхальнай сістэмы.
Групы працуюць па 12 гадзін у дзень, замест 10 у звычайных групах. Дзецям даюць узмоцненае 5-разовае харчаванне, робяць працэдуры.
Дадаткова ўвялі педагагічны і медыцынскі персанал.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Адзіныя з Беларусі

МАЛАДЗЕЧНА. Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка" атрымаў дыплом за ўдзел у 5-м міжнародным фестывалі "Калядная містэрыя". Ён быў прысвечаны Калядам і калядным традыцыям у розных краінах свету. Маладзечанцы былі адзінымі прадстаўнікамі з Беларусі.
Фестываль прайшоў у Луцку на Украіне. Яго ўдзельнікі з'ехаліся з некалькіх украінскіх гарадоў, Расіі, Польшчы, Венгрыі, Чэхіі, Германіі.

**Ірына РАБУШКА.**

## Нью-Васюкі?

СМАРГОНЬ. У вёсцы Васюкі Каранёўскага сельскага Савета міліцыяй выяўлена вытворчасць самагону, якая была аўтаматызаваная.
Малады вясковец разаграваў брагу на мазуце, пераліваў прадукт з дапамогай помпы "Ручаёк", працавала вентыляцыйнае ўстройства.

**Тарэса КУМІШЧА.**

## Апошні герой-3

МЯДЗЕЛ. Першая за доўгі час камерцыйная змена прайшла ў нацыянальным дзіцячым лагеры "Зубраня".
Адпачыла за поўны кошт пуцёвак на зімовых канікулах больш за 260 дзяцей. Было шмат навагодніх мерапрыемстваў. Правялі і творча-гульнявы праект "Апошні герой-3".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Павязалі рабаўнікоў

ВІЛЕЙКА. 12 студзеня супрацоўнікі Вілейскага РАУС у раёне вадасховішча на тэрыторыі яхт-клуба затрымалі рабаўнікоў, якія пад пагрозай пісталетаў у Мастоўскім раёне завалодалі фурай з калготкамі. Груз важыць 14 тон і каштуе 120 тысяч долараў.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

## Не даехалі

АШМЯНЫ. 12 студзеня прайшло традыцыйнае фальклорнае свята "Грай, гармонік". Удзельнікі прыехалі з васьмі вёсак. З-за 30-градуснага марозу яшчэ з пяці вёсак так і не змаглі дабрацца. "Замерзлі" машыны.

**Ірына РАБУШКА.**

# Птушка шчасця



Кіраўнік арніталагічнага клуба Дзмітрый Халадзінскі разам са сваім выхаванцам Сяргеем Амілаўскім трымаюць голуба і галубку.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

## Галубы – адзіныя з птушак, якія разам будуюць гняздо, гадуюць дзетак. Дзмітрый Халадзінскі гэта ведае як ніхто

**МАЛАДЗЕЧНА. Арніталагічны клуб пад кіраўніцтвам Дзмітрыя Халадзінскага перамог на I міжнароднай выставе "Птушка, якая аб'ядноўвае нас". Клуб працуе пры цэнтры пазашкольнай работы, а месціцца ў СШ №3. Выстава прайшла 11-12 студзеня ў Мінску.**

У ёй удзельнічалі галубагадоўцы і аматары птушак з Беларусі, Расіі, Украіны, Туркменіі, Татарстана, Кітая. Птушкі ацэньваліся па 100-бальнай міжнароднай сістэме. Самка і самец туркменскага агарана, якіх прывезлі маладзечанскія клубаўцы, атрымалі 92 і 94 балы адпаведна. Увогуле, адных толькі галубоў розных відаў на выставе было каля 1000. 56 галубоў і 80 іншых птушак прывезлі маладзечанцы.

Дзмітрый займаецца птушкамі з дзяцінства. А дакладней, ён з імі вырас. "Для мяне голуб – гэта птушка шчасця і міру , — гаворыць Дз.Халадзінскі. – I так павінна быць ва ўсіх ". Галубы, бадай, адзіныя з птушак, кажа ён, якія разам будуюць гняздо, абараняюць яго. Па чарзе выседжваюць птушанят, разам іх гадуюць і кормяць. Нават птушынае малако з'яўляецца ў бацькі.

Акрамя галубоў, у яго жывуць крумкач Карлуша, які ўмее гаварыць, канарэйкі, якія перазімавалі цяпершнія маразы на вуліцы, сарока, якая любіць паласавацца мясам...

Тры мяхі збожжа ў месяц і 1 кілаграм мяса на тыдзень трэба гаспадару, каб іх пракарміць. Яны ў сваю чаргу дапамагаюць яму... радавацца жыццю. А галубы яшчэ і грошы зарабляць.

З кастрычніка яны "працуюць" у гарадскім ЗАГСе. Дзмітрый Халадзінскі прыносіць іх, каб маладыя выпусцілі па птушцы ў неба. Ёсць такое павер'е: хто выпусціць голуба ў неба, той будзе шчаслівы ўсё жыццё.

**Ірына РАБУШКА.**

### Школа ці гімназія?

Ці стане СШ №6 у Маладзечне другой гімназіяй у горадзе? Гэта задача з некалькімі невядомымі. Пазіцыі кіраўніцтва выканкома і кіраўніцтва яго аддзела не супалі.

4-я старонка

### Твае акуляры

Можна быць чалавекам справы і ўсё адно думаць пра акуляры.



6-7-я старонкі

### Фіктыўны развод

Часам дзеля ўпарадкавання маёмасці бывае патрэбны не толькі фіктыўны шлюб, але і фіктыўны развод.



8-я старонка

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



■ ПАСЛУГІ

# Заплаці і чытай спакойна

**МАЛАДЗЕЧНА. 17-ы дзень гарадская бібліятэчная сістэма працуе па-новаму. З 1 студзеня ўвялі адзіны чытацкі білет. За яго трэба заплаціць 1 тысячу рублёў. Так як і пры запісе ў бібліятэку, каб атрымаць гэты ж білет. За кожную перарэгістрацыю, якая праходзіць раз у год, звычайна ў студзені-лютым, таксама трэба будзе плаціць. Запісваюць у бібліятэку круглы год.**

Чытацкім білетам можна карыстацца ў цэнтральнай гарадской бібліятэцы і пяці яе філіялах. Карыстальнікі дзіцячых бібліятэк, аддзелаў дашкольнага, малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту вызвалены ад аплаты. Чытачам-інвалідам, вучням 10-11 класаў, навучэнцам тэхнікумаў, каледжаў даюць 50%-ю скідку.

Колькасць чытачоў у бібліятэках горада павялічваецца штогод. Напрыклад, сёлета прыбавілася 500 чытачоў, летась — паўтары тысячы. Усяго ў бібліятэках запісана 34 тысячы чалавек. Шмат чытае пенсіянераў. Але большая частка – да 70% — моладзь.

Нягледзячы на вялікую колькасць чытачоў, "выручка" будзе толькі 7-8 мільёнаў у год. Бо некаторыя людзі запісаныя ў 2-3 бібліятэкі, а плаціць трэба за 1 чытацкі білет. І вызвалены ад платы каля 12 тысяч дзяцей.

Дырэктар гарадской цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы


У абанентскай зале цэнтральнай гарадской бібліятэкі заўсёды шмат людзей. Фота Ірыны РАБУШКІ.

Ніна Артышэвіч гаворыць:

— Сорамна і браць з чытача грошы, і за дзяржаву, якая не можа поўнасцю ўтрымліваць бюджэтныя ўстановы. Але што рабіць? Лепш узяць гэтую сімвалічную, мізэрную плату, чым бачыць пустыя паліцы ў бібліятэках. Бо чытацкі білет увялі не толькі дзеля грошай, а каб захаваць кніжныя фонды. Раней жа называлі любы нумар і прозвішча і давалі кнігі. Цяпер усё будзе як мае быць.

На самой справе, па словах дырэктара ЦБС, выручаных грошай бібліятэка не ўбачыць. Яны пойдуць на канцтавары, гаспадарчыя патрэбы, падаткі, аплату камунальных паслуг. І тут жа Н.Артышэвіч прыпамінае, як мінулай зімой у цэнтральнай гарадской бібліятэцы ацяпленне адключылі... 15 лютага. Потым на некалькі дзён уключылі, калі мароз апускаўся ніжэй 15 градусаў.

Астатнія грошы прызначаны для актывізацыі бібліятэчнай сістэмы. Калі, канешне, застануцца.

**Ірына РАБУШКА.**

## Рэпертуар Мінскага абласнога тэатра лялек «Батлейка» на студзень 2003 года

19.01. нядзеля — Р.Осцер. **"Прывітанне для Малпачкі"** (камедыя ў 2-х дзеях)

26.01. нядзеля — Я.Сперанскі. **"Незвычайныя спаборніцтвы"**

Пачатак спектакляў у 12 гадзін. Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: вул. Драздовіча, 5-в.

■ ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 95 ГОД ТАМУ

## У гарадскім вучылішчэ кепска каталікам

М. Радашковичы Вилейск. П. Вил. Губ.

Нядаўно адкрылося тут гарадзкое вучылишчэ. Ўсе тутэйшые людзи клапацилися аб им. Ешчэ ў пачатку казали многа людзе, што трэба, каб у вучылишчу быў вучыцель польскай мовы и вучыў па-польску тых вучнёў, каторые захочуць; на гэта абецали даць патрэбные грошы.

Але вучылишчэ завяло ў сябе таки дух, што нашы каталики стали непрыхильными да таго самага вучылишча, каторага з радасьцю чакали. И ня дзива. Праваслаўных рэлигии вучыць поп, а для каталикоў дагэтуль ксендза немаведама чаго не завуць, хаця па закону вучыць каталикоў рэлигии павинен ксёндз. А аб навуцы польскай мовы тых, хто хочэ, нима и ўспамину. Вучылишчэ крыху пахне "исцинна-руским" духам.

Трэба шкадаваць, што гэта зрабилося, але вучылишчэ яшчэ маладое можэ и пераменицца так, каб ўсе были задаволены

**Першая Беларуская Газэта з Рысунками "Наша Нива". №2 ад 18 студня 1908 г.**

## Цікавая работа

**«Рэгіянальная газета» паўторна праводзіць конкурс на замяшчэнне вакантнай пасады спецыяліста ў аддзел распаўсюджвання.**

Калі вы маеце вышэйшую адукацыю, не баіцеся камп'ютэра, гатовыя ўліцца ў каманду аднадумцаў – дасылайце рэзюме на адрас рэдакцыі.

"Рэгіянальная газета" – выданне, якому сёлета спаўняецца 8 год, якое добра вядомае не толькі ў нашым рэгіёне, якое пастаянна знаходзіцца ў развіцці і творчым пошуку, якое мае зразумелыя перспектывы.

222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.

Электронная пошта: regionnews@promedia.by

Факс 01773–53841, 69667.

■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## Гісторыя, расказаная пад стары Новы год

У дзяцінстве ў мяне быў сябар, добры хлопец па мянушцы Казёл. Вова, так яго звалі, надта крыўдзіўся на сваю немілагучную мянушку. Тады я вырашыў дапамагчы сябру і прыдумаў яму новую — Шчыплі. "А што гэта значыць?", — запытаў сябар. "Гэта сінтэз мянушкі кенгуру Скіпі з аднайменнага папулярнага аўстралійскага серыяла са спосабам ужывання казлом ежы – шчыпаннем травы". Уважліва выслухаў мяне Вова і сказаў: "Завіце мяне, як і раней, Казлом, я усё ж беларус, а не аўстраліец які".

І на самой справе, чаго скардзіцца? У нашых продкаў казёл быў паважаней жывёлай. "Казёл" – карагод-гульня. Дзяўчаты, узяўшыся за рукі, утвараюць круг, адна з іх, "казёл", становіцца пасярэдзіне. Дзяўчаты водзяць карагод і спяваюць: "Пакажы, казёленька, павітай, казёленька, як бабулькі скачуць?"... "Казёл" – традыцыйны танец, які часта выконвалі на вяселлях. Казёл – маска-персанаж у старажытным калядным абрадзе, звязаным з традыцыяй земляробчых святкаванняў зімовага сонцазвароту.

На поўначы Беларусі воблік казла, чарапы іх знаходзяць у курганах, увасабляе культ урадлівасці і культ Сонца. Адзін такі курган знаходзіцца ў вярхоўях Віліі каля в. Курганы. Паданне пра курганны могільнік апавядае пра казла, які тут з'яўляецца ў поўнач.

Паколькі наш рэгіён знаходзіцца ў басейне Віліі, будзем спадзявацца, што год Казы (Казёл – гэта яе "муж") па рэчцы прынясе нам здароў'е, шчасце і багацце.

**Ігар КІЦІКАЎ.**

# Прызы чакаюць падпісчыкаў

**24 студзеня ў 14.00 у маладзечанскім кінатэатры "Радзіма" пройдзе розыгрыш прызоў сярод падпісчыкаў "Рэгіянальнай газеты". У розыгрышы прызоў удзельнічаюць падпісчыкі, якія даслалі копіі або арыгіналы падпісных квіткоў на першы квартал або на паўгоддзе на адрас "Рэгіянальнай газеты" да 6 студзеня гэтага года.**

Падпісная кампанія ў канцы мінулага года дапамагла газеце павысіць свой тыраж да 10300 экземпляраў. Кожны чацверты экземпляр ідзе па падпісцы. Астатнія распаўсюджваюцца ў розніцу. Асноўная маса чытачоў знаходзіцца ў Маладзечне (распаўсюджваецца больш за 6000 экземпляраў) і Вілейцы (2400 экземпляраў). Вілейка абганяе Маладзечна па колькасці падпісчыкаў, Маладзечна Вілейку – па продажы газет у розніцу. Ёсць чытачы ў газеты – і сярод удзельнікаў розыгрышу – і за межамі рэгіёну.

Вынікі розыгрышу прызоў будуць апублікаваныя ў нашай газеце 31 студзеня. Для ўдачніка, які выйграе прыз, дастаткова будзе прад'явіць пашпарт або іншае пасведчанне асобы і арыгінал падпіснога квітка, калі ў рэдакцыю была даслана копія. Калі шчаслівы пераможца прыйдзе на розыгрыш прызоў 24 студзеня, то яму прыз можа быць уручаны непасрэдна ў час правядзення акцыі.

Сябруйце з нашай газетай і вы пастаянна будзеце ў курсе падзей нашага рэгіёну.

**Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты".**

**Сярод прызоў:**

*магчымасць*

*правесці вечар на дваіх у кафэ «Блюз»,*

*чайны сервіз і шмат іншых...*


## Ты можаш стаць студэнтам вышэйшай школы журналістыкі імя М. Ваньковіча ў Варшаве

*на цэлых 5 месяцаў!!!*

*Калі*

✓ табе 18-25 год
✓ у цябе ёсць вопыт практычнай журналістыкі ў газетах або на радыё
✓ твая рэдакцыя або журналісцкая арганізацыя можа даць табе рэкамендацыйнае пісьмо
✓ ты ведаеш польскую мову хаця б на ўзроўні разумення

**гэта праграма — для цябе!**

Для ўдзелу ў конкурсе **атрымай** анкету, спіс неабходных дакументаў і дадатковую інфармацыю ў «Рэгіянальнай газеце».

**Вышлі** дакументы па пошце да **27 студзеня 2003** года або прывязі асабіста да 30 студзеня на адрас фонду развіцця рэгіянальнай прэсы (220033, Мінск, пр-т Партызанскі, 6А, пакой 4 (правае крыло).

Пераможцы конкурсу атрымаюць стыпендыю, якая пакрые выдаткі на навучанне, медыцынскую страхоўку, пражыванне ў інтэрнаце, двухтыднёвую стажыроўку ў польскай газеце і штодзённыя выдаткі студэнцкага стандарту!

Партнёры праграмы:
Fundacja Centrum Prasowe dla Krajów Europy Środkowo-Wshodnej, Fundacja im. Stefana Batorego,


Фонд развития региональной прессы


© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Пасажыры, аўтобусы...

**ВІЛЕЙКА. Новыя выпрабаванні і цьмяныя перспектывы чакаюць аўтавакзал. У 2003 годзе плануецца яго пераход са структурнага падраздзялення аўтобуснага парка ў непасрэднае падпарадкаванне Упраўлення Мінаблаўтатранс. Узровень дзяржаўных датацый у параўнанні з мінулым скарацiўся ў тры разы. Цяпер самім прыходзіцца зарабляць 75 % фінансавых сродкаў.**

Колькасць адпраўленняў з пляцовак аўтавакзала паменшылася ўдвая і складае ў розныя дні ад 45 да 60. Пасажырапаток скараціўся да 500 – 1200 чалавек ў дзень, а штодзённая выручка вагаецца ад 400 тысяч да 1 млн. рублёў. У перспектыве аўтавакзал будзе атрымліваць 15 % ад гэтай сумы.

Па словах **Аляксандра Галко**, начальніка аўтавакзала з 1992 года, гэтых грошай і дадатковых сродкаў, якія паступаюць за здачу памяшканняў у арэнду, практычна хапае толькі на выплату зарплаты.



Адзін з самых папулярных рэйсаў Вілейка-Маладзечна. Аўтобус рэдка бывае пусты. Фота Віталя ПАЎЛОЎСКАГА.

Адной з прычын змяншэння колькасці пасажыраў Аляксандр Міхайлавіч называе высокія тарыфы. З іншага боку, па словах касіра Людмілы Парфяновіч, вакзал шмат страчвае ад вялікай колькасці льготнікаў. Як прыклад, на адзін з рэйсаў самага бойкага маршруту "Вілейка – Маладзечна" поўных білетаў было набыта толькі 16 з 55.

Будынак аўтавакзала ўведзены ў эксплуатацыю ў 1986 годзе і патрабуе капітальнага рамонту. Аляксандр Галко спадзяецца, што ў 2003 годзе гэта пытанне будзе вырашана.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 9.01 руб. | 16.01 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1923,00 | 1932,00 |
| Еўра | 2002,52 | 2032,752 |
| Злоты | 500,46 | 506,29 |
| Літ | 579,88 | 588,84 |
| Расійскі рубель | 60,31 | 60,73 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1930/1950 | 1930/1950 |

Маладзечна
## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 8.01 | 15.01 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 10990 | 10900 |
| Сасіскі, 1 кг | 4900 | 4990 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Рыс, 1 кг | 720 | 720 |
| Грэчка, 1 кг | 1100 | 1050 |
| Цукар, 1 кг | 920 | 950 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1380 | 1200 |
| Алей, 1 л | 2000 | 1600 |
| Маянэз, 200 г | 450 | 350 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2000 | 2000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 620 | 620 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 700 | 700 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 800 | 750 |
| Капуста, 1 кг | 500 | 700 |
| Морква, 1 кг | 1000 | 1300 |
| Лімоны, 1 кг | 2400 | 2600 |
| Апельсіны, 1 кг | 1690 | 1650 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1 л | 800 | 700 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 2000 | 1800 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1700 | 2000 |
| Бульба, 1 вядро | 4000 | 3400 |
| Яблыкі, 1 кг | 1200 | 1300 |

■ АГОНЬ

## Цана бесклапотнасці

**У 2002 годзе ў Маладзечне і Маладзечанскім раёне адбылося 193 пажары, поўны ўрон ад якіх склаў 602 мільёны рублёў. У агні загінула 25 чалавек, што на 10 больш, чым у 2001 годзе, прытым адно дзіця.**

У горадзе адбыўся 71 пажар з поўным уронам у 75 мільёнаў рублёў, у сельскай мясцовасці – 122 пажары, урон – 527 мільёнаў рублёў. У горадзе загінула 11 чалавек, у сельскай мясцовасці – 14.

Найбольш пажараў адбылося ў Цюрлёўскім с/с (8), Палачанскім с/с (9), у Мясоцкім і Лебедзеўскім сельскіх Саветах (па 10), Аляхновіцкім і Радашкавіцкім (па 11), у Красненскім сельскім Савеце (20).

Агнём знішчаны 64 пабудовы, 9 галоў скаціны, 4 адзінкі тэхнікі, 542 тоны кармоў.

Як і раней, штогод асноўная маса пажараў адбываецца ў жылых дамах і надворных пабудовах. Летась у жылым сектары адбылося 146 пажараў, урон ад якіх склаў 385 мільёнаў рублёў. У грамадскім сектары – 47 пажараў з поўным матэрыяльным уронам у 217 мільёнаў рублёў.

Трэцяя частка пажараў у мінулым годзе адбылася па прычыне неасцярожнага абыходжання з агнём, халатнасці грамадзян. А колькі няшчасцяў прыносяць курыльшчыкі!

Таксама павялічылася колькасць пажараў па прычыне няспраўнага пячнога ацяплення. У гэтым годзе выдалася суровая зіма, і ўсе людзі ўзмоцнена паляць печы. Але калі печ няспраўная, то гэта непазбежна заканчваецца пажарам.

**Цэнтр навучання правілам пажарнай бяспекі Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях.**

■ ВЫТВОРЧАСЦЬ

## Гісторыя пра шнуркі

**МАЛАДЗЕЧНА. Кожную сераду, суботу і нядзелю Валянцін Прысяжны прадае на базары... шнуркі. Менавіта ў гэтыя дні яны расходзяцца лепш. Большым попытам карыстаюцца чорныя.**

... Па адукацыі Валянцін Аляксандравіч інжынер-электроншчык. Нават на базар бярэ тэхнічную літаратуру. А гісторыя са шнуркамі доўжыцца з 1996 года. Неяк на базары да Валянціна падышла пажылая жанчына. Хацела прадаць залаты пярсцёнак. "Навошта прадаеце", — спытаўся. У адказ пачуў: "Есці хочацца".

Тады ён зразумеў, што трэба штосьці ў жыцці мяняць. Меркаваў, выйсце ў складаных часах — мець сваю вытворчасць.

Валянцін пачуў, што ёсць дэфіцыт са шнуркамі. З'ездзіў у Польшчу, на Украіну: дарагія – не дакупіцца. Адзінае прадпрыемства ў Беларусі, што выпускае шнуры (не блытайце са шнуркамі) знаходзіцца ў Магілёве. Паехаў туды, закупіў партыю шнура. Дома паразразаў на кавалкі. З алюмініевага дроту рабіў наканечнікі. 50 секунд – і шнуркі гатовыя. Валянцін гаворыць, што праз месяц ад апёкаў не адчуваеш рук. Збываў шнуркі праз універмагі Маладзечна, Вілейкі... Толькі ў Маладзечне на 300 долараў у месяц прадаваў. Цяпер справу сваю ўдасканаліў. Новыя прылады для вытворчасці шнуркоў прыдумаў. Замест алюмініевага дроту бярэ гнуткі стальны. Шнуркі за 5 секунд робіць. Да яго "прадукта" патрабаванні павысіліся: сертыфікат якасці патрабуюць. А



Інжынер электроншчык Валянцін Прысяжны даўно вырашыў займацца сваёй справай. Нават не вырашыў, а жыццё прымусіла. Больш дзесяці год таму пачаў гандляваць шнуркамі ўласнай вытворчасці. У перапынках між сустрэчамі з пакупнікамі абдумвае новыя ідэі. Тэхнічныя і не толькі. Або не столькі. Ён ведае, як вывесці з крызісу нашу вытворчасць. Ну, хай сабе не ўсю. А вось што са "Спадарожнікам" рабіць, здагадваецца.
Акрамя таго Валянцін Прысяжны цікавіцца гісторыяй. У тым ліку напалеонаўскай Францыі. Гісторыяй таго, як змог Напалеон перамагчы разруху ў сваёй краіне. На пытанні аб тым, дзе ўзяць беларусам Напалеона, толькі ўсміхаецца.
Фота Ірыны РАБУШКІ.

заробкі на шнурках невялікія.

2 гады таму 110 кілаграмаў шнура купіў. Маўляў, цяпер надоўга хопіць. Толькі з красавіка шнуркі амаль не купляюць. Валянцін Прысяжны не губляецца. Машынку швейную прыдбаў. Мяхі з-пад цукру, крупаў купляе. Сумкі з іх шые і прадае. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя...

**Ірына РАБУШКА.**

■ АДУКАЦЫЯ

## Зарплата ў тэрмін

**АСТРАВЕЦ. У "РГ" у №6 ад 8.02.2002 г. мы пісалі пра настаўніка Мікалая Уласевіча. Раённы суд абавязаў улады своечасова выплачваць яму зарплату.**

31 студзеня 2002 года суддзя Іван Яноўскі вынес рашэнне і абавязаў Астравецкі раённы аддзел адукацыі выплачваць істцу зарплату 16 чысла кожнага месяца і аванс 26 числа гэтага ж месяца. У выпадку нявыплаты ва ўстаноўленыя тэрміны адказчык у асобе загадчыка Астравецкага раённага аддзела адукацыі будзе прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў памеры 10 мінімальных заробатных плат.

Каб даведацца, як вырашаецца гэтае пытанне цяпер, карэспандэнт "РГ" звярнулася ў Астравецкі раённы аддзел адукацыі. Галоўны бухгалтар райана Тэрэса Малочка гаворыць, што кожны месяц з 10 чысла у яе пачынаецца галаўны боль: як у тэрмін выплаціць зарплату М.Уласевічу. Трэба сказаць, што гэта ўдаецца.

Наогул усе настаўнікі ў раёне павінны атрымліваць аванс з 20 па 26 чысла і зарплату з 10 па 14 гэта ж месяца. Але на самой справе такога няма. Настаўнікам даюць зарплату і аванс разам з 20 па 30 чысла штомесяц. Па словах Т.Малочкі, так складваецца, што раён працуе на датацыях з вобласці. Менавіта яна спазняецца.

Галоўны бухгалтар райана кажа, што калі б усе настаўнікі зрабілі па прыкладу М.Уласевіча, то, напэўна, у іх бы нічога не атрымалася. Бо аднаму чалавеку знайсці грошы значна лягчэй.

**Ірына РАБУШКА.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



■ АДУКАЦЫЯ

# Школа ці гімназія?

**МАЛАДЗЕЧНА. На апошнім пасяджэнні гарвыканкома не была падтрыманая прапанова гарадскога аддзела адукацыі аб рэарганізацыі СШ№6 у гімназію. Разгляд пытання адкладзены ў першую чаргу з–за адсутнасці фінансавага абгрунтавання.**

Генератарамі ідэі, як сцвярджаюць у гарадскім аддзеле адукацыі, з'яўляюцца дырэктар СШ№6 **Ірына Байтаз** і аддзел адукацыі. Ідэю падтрымліваюць у абласным аддзеле адукацыі. Мяркуецца, што такая гімназія можа быць рускамоўнай. Да гэтага часу ў Маладзечне была толькі адна гімназія, беларускамоўная. Калі б планы па рэарганізацыі былі прынятыя, то яе меркавалі правесці з 1 верасня 2003 года.



І ў школу, і ў гімназію прыходзяць за ведамі. Фота IREX/ProMedia.

Пазіцыя работнікаў адукацыі палягае на тым, што другая гімназія ў горадзе павысіць прэстыж Маладзечна. Звычайныя ж сярэднія школы "абслугоўваюць" толькі бліжэйшыя да іх гарадскія кварталы. На самой справе у СШ№6 вучацца дзеці і з аддаленых ад яе частак горада. У дзяцей і іх бацькоў з'явіцца выбар, паміж гімназіямі ўзнікне канкурэнцыя, і не толькі паміж гімназістамі, але і між настаўнікамі. Самыя здольныя з іх змогуць выбіраць – куды пайсці працаваць. Выбіраць будуць і іх – па конкурсе. На самой справе гімназія пачынаецца з 4 класа. З падрыхтоўчага па 3-і – пачатковая школа, пасля якой дзеці здаюць уступныя экзамены. І па іх выніках залічваюцца ў гімназію. У гімназістаў з'явіцца магчымасць вывучаць другую замежную мову. Гімназія працуе зусім па іншым вучэбным плане, які больш гнутка рэагуе на запыты дзяцей.

Іншая пазіцыя заключалася ў тым, што на любыя рэарганізацыі павінны быць грошы. Разгляд прапановы аб стварэнні новай гімназіі на пасяджэнні выканкома быў перанесены па ініцыятыве старшыні Мікалая Чурсіна. Планы па рэарганізацыі не мелі фінансавай аргументацыі. Каб ствараць гімназію – навучальную установу з больш шырокімі магчымасцямі, чым у школы, трэба мець адпаведныя фінансы. І не толькі, каб павысіць зарплату выкладчыкам, якіх будуць адбіраць па конкурсе на 15 працэнтаў. Патрабуе капітальнага пераабсталявання, напрыклад, школьная сталоўка. І сума можа назбірацца ў сотні мільёнаў рублёў. Зразумела, што пры дэфіцыце гарадскога бюджэту і нявырашаных праблемах ў іншых бюджэтных сферах – цяпер плануюцца вялікія ўкладанні ў гарадскую сістэму аховы здароўя – гэта зрабіць вельмі складана, а без дэталёвага бізнес–плана ўвогуле немагчыма. Акрамя таго, вынікі мінулага навучальнага года і паступленняў выпускнікоў 6–й школы і гімназіі паказалі, што 6–я школа па некаторых пазіцыях і без надання статуса гімназіі апярэджвае гімназію. Хаця б па долі выпускнікоў, якія паступілі ў ВНУ.

І ўсё ж ідэя аб стварэнні другой гімназіі ў горадзе не пахаваная. Яна абмяркоўваецца штодня ў гарадскім аддзеле адукацыі.

Што тычыцца СШ №6, то дырэктар беларускай гімназіі **Аляксандр Бурдыка** згодны, што яна ўжо падобная на гімназію. Але канкурэнцыі ён не баіцца. Гімназія, на яго думку, свае перавагі даказвае перамогамі на абласных алімпіядах. Беларуская мова – не перашкода, колькасць жадаючых вучыцца ў беларускай гімназіі не спадзе. Але больш 2-х гімназій, лічыць А.Бурдыка, гораду не патрэбна.

Канечне, кожная школа можа прэтэндаваць на статус гімназіі. А даказаць свае магчымасці можна плённай працай вучняў. І кваліфікацыяй настаўнікаў, больш за 50 працэнтаў якіх мусяць мець 1–ю або вышэйшую катэгорыі.

**Ірына РАБУШКА, Мікола ГАЙДУК.**

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## Якая школа можа стаць гімназіяй?



**Станіслаў Цярэшка, прадпрымальнік:**
— СШ №14. У яе ёсць для гэтага ўсе магчымасці: добрыя адукаваныя настаўнікі, тэхнічная аснашчанасць. СШ №11 – не зможа стаць гімназіяй. Сам там вучыўся. Якасць адукацыі жадае быць лепшай.



**Таіса Долмат, службоўца:**
— Мае дзеці ходзяць у 8-ю. Але гэтая школа не можа стаць гімназіяй. Вось 6-я. Яна спецыялізаваная. Высокі ўзровень ведаў. Настаўнікі добра адукаваныя.



**Дзмітрый Маркун, пчаляр:**
— 11-я. Я там вучыўся. Адтуль і пайшоў у пчаляры. Навучалі ў школе добра. Падабаецца і тое, што басейн у ёй ёсць.



**Тамара Рынгіс, гаспадыня:**
— 14-я. Самая сучасная школа ў горадзе. Усе ўмовы для таго, каб стаць гімназіяй, ёсць. Настаўнікі добра падрыхтаваныя. Напэўна, і дзеці зацікаўленыя ў вучобе.



**Вячаслаў Табулін, журналіст:**
Кожная. Дзе патрабуюць ад настаўнікаў сур'ёзных адносінаў да навучэння дзяцей. Дзе не даюць школьнікам палёгкі і рыхтуюць да інстытута. Напрыклад, належныя патрабаванні ў СШ №7 да хіміі, матэматыкі.

Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.

## Звесткі з прадпрыемстваў аб неабходнасці ў кадрах

| Назва прадпрыемства / Прафесія, пасада | Неабходна (чалавек) |
|---|---|
| **ТЭУП «Аўтабаза райспажыўтаварыства»** | **8** |
| Вадзіцель аўтамабіля | 6 |
| Матарыст | 1 |
| Інжынер па бяспецы руху | 1 |
| **МП «Аграбуд»** | **1** |
| Энергетык | 1 |
| **УП «Аксаміт-М»** | **1** |
| Швачка | 1 |
| **Белархбуд** | **10** |
| Станочнік дрэваапрацоўчых станкоў | 10 |
| **ТАА «Белтэхналесбудсервіс» (участак у в.Палачаны)** | **15** |
| Рамшчык | 15 |
| **ААТ «Будавнік-169»** | **14** |
| Бетоншчык | 5 |
| Бляхар | 3 |
| Муляр | 5 |
| Машыніст кампрэсарнай устаноўкі | 1 |
| **МП «Гайк»** | **1** |
| Галоўны бухгалтар (з вопытам работы) | 1 |
| **РУП «ДРБУ-49»** | **1** |
| Трактарыст | 1 |
| **ААТ «Электрамодуль»** | **29** |
| Карэкціроўшчык ваннаў | 5 |
| Ліцейшчык | 5 |
| Наладчык станкоў з лічбавым праграмным кіраваннем | 4 |
| Слесар | 5 |
| Электраманцёр па рамонту абсталявання | 5 |
| Перакладчык | 1 |
| **Завод ЖБВ** | **1** |
| Кранаўшчык | 1 |
| **Завод металавырабаў** | **1** |
| Інжынер-канструктар | 1 |
| **Кафэ «Гурман»** | **1** |
| Повар | 1 |
| **Станказавод** | **82** |
| Абрубшчык | 8 |
| Аператар станкоў з лічбавым праграмным кіраваннем | 7 |
| Працяжчык | 10 |
| Рэзчык | 5 |
| Свідравальшчык | 5 |
| Стрыжаншчык | 8 |
| Габлявальшчык | 6 |
| Токар | 15 |
| Токар-расточнік | 5 |
| Фрэзероўшчык | 5 |
| Майстар | 1 |
| Начальнік бюро | 1 |
| **«Забудова-Дрэў»** | **8** |
| Рамшчык | 3 |
| Станочнік дрэваапрацоўчых станкоў | 5 |
| **«Забудова», энергамеханічная служба** | **2** |
| Электрагазазваршчык | 2 |
| **«Забудова-Аўтатранс»** (усе з вопытам работы ў транспартнай арганізацыі) | **5** |
| Галоўны інжынер | 1 |
| Аўтамеханік | 2 |
| Эканаміст | 2 |
| **Індывідуальны прадпрымальнік** | **2** |
| Прадавец | 2 |
| **ГВУП «Камунальнік»** | **2** |
| Аператар кацельні | 2 |
| **ТАА «Лазурыт»** | **4** |
| Бляхар | 2 |
| Слесар-рамонтнік | 2 |
| **Магазін «1000 дробязяў»** | **2** |
| Прадавец | 1 |
| Загадчыца секцыі | 1 |
| **Магазін птушкафабрыкі (Старое Места)** | **1** |
| Загадчыца магазіна | 1 |
| **ГКУП «Маладзечнабыт»** | **2** |
| Манікюрка | 1 |
| Педыкюрка | 1 |
| **ВТРУП «Малпрамтара»** | **1** |
| Рамшчык | 1 |
| **МПМК-197 СУП ААТ «Забудовабуд»** | **15** |
| Муляр | 15 |
| **ТАА «Слогер»** | **1** |
| Кандытар | 1 |
| **ААТ «Аддзелачнік-198»** | **3** |
| Матарыст | 1 |
| Тынкоўшчык | 2 |
| **МГУП «Пасаж»** | **3** |
| Повар | 2 |
| Рабочы па рамонту будынкаў | 1 |
| **Іншыя** | **1** |
| Вадзіцель аўтамабіля | 1 |
| **Птушкафабрыка (Аляхновічы)** | **23** |
| Птушкагадовец | 2 |
| Апаратчык | 1 |
| Жывёлавод | 2 |
| Жылоўшчык | 1 |
| Млынар | 1 |
| Наладчык абсталявання | 1 |
| Аператар | 2 |
| Аператар машыннага даення | 2 |
| Нарыхтоўшчык кармоў | 1 |
| Прыёмшчык сыравіны | 1 |
| Свінагадовец | 2 |
| Слесар-электрык | 2 |
| Слесар-рамонтнік | 2 |
| Вартаўнік | 2 |
| Прыбіральшчыца | 1 |
| **Райбальніца** | **5** |
| Урач | 1 |
| Урач-стаматолаг | 1 |
| Медсястра | 3 |
| **РБУ** | **1** |
| Сталяр | 1 |
| **РУП «Маладзечанскае ВПТК»** | **1** |
| Інжынер-энергетык | 1 |
| **СТАА «Сілвам»** | **13** |
| Вадзіцель пагрузчыка | 2 |
| Рамшчык | 10 |
| Электрагазазваршчык | 1 |
| **АТ «Будсервіс»** | **3** |
| Машыніст аўтавышкі | 1 |
| Электрагазазваршчык | 2 |
| **УП «Хажова»** | **1** |
| Электрагазазваршчык (варыць трубы, дастаўка аўтобусам ад дзіцячай бальніцы) | 1 |
| **УП «ЭНВА» АТ «БелТІЗ»** | **10** |
| Ліцейшчык | 7 |
| Слесар-рамонтнік | 1 |
| Станочнік дрэваапрачоўчых станкоў | 1 |
| Тэрміст | 1 |
| **ААТ «Бярозка»** | **11** |
| Слесар-рамонтнік | 1 |
| Швачка | 10 |
| **ААТ «Юнона»** | **5** |
| Слесар-рамонтнік | 1 |
| Швачка | 4 |
| **РУП «Фабрыка музінструментаў»** | **10** |
| Вадзіцель аўтамабіля (КамАЗ) | 1 |
| Каваль | 1 |
| Машыніст кампрэсарнай установкі | 1 |
| Рамшчык | 2 |
| Слесар па вентыляцыі | 1 |
| Тэрміст | 1 |
| Аўтамеханік | 1 |
| Начальнік цэха | 1 |
| Энергетык | 1 |
| **ЗАТ «Фенікс тур»** | **1** |
| Прадавец | 1 |
| **Цэнтр кар-развіваючага навучання** | **1** |
| Медсястра | 1 |
| **МРУП «Чысцінская ЖКГ»** | **1** |
| Электрагазазваршчык | 1 |

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# За нашу і вашу свабоду

**Каго любіш?**
**Люблю Беларусь.**
**Так узаемна!**

Гэта словы пароля паўстанцаў 1863 года, актыўныя дзеянні якіх ахапілі і Вілейшчыну. Падрыхтоўка паўстання намячалася на вясну, аднак улады праведалі пра планы Літоўскага правінцыяльнага камітэта і ў пачатку студзеня нечакана правялі рэкруцкі набор. Таму паўстанне пачалося стыхійна і раней намечанага тэрміну. Як бачна з пратакола допыту аднаго з яго ўдзельнікаў – Самарына, прыбыўшага разам з Бякеневым з Пецярбурга ў Вільню, 10 сакавіка ён атрымаў марку і інструкцыю Рэвалюцыйнага камітэта аб сваім назначэнні ў атрад ветэранаў рэвалюцыйнага руху ў Беларусі Ю.Бакшанскага. З апошнім Самарын павінны быў сустрэцца ў канцы сакавіка ці напачатку красавіка ў Вілейцы.

Але, як стала вядома, атрад Бакшанскага колькасцю ў 20 чалавек на шляху да месца збору паўстанцкіх сіл у Вілейцы 21 сакавіка быў нечакана атакаваны салдатамі ў час адпачынку ў маёнтку Свечкі каля Краснага. Чатыры касінеры, у тым ліку і сам камандзір, загінулі ў няроўным баі. Гэта была першая няўдача паўстанцаў, якая парушыла іх планы.

Для наладжвання жыцця на месцах у створаных рэвалюцыйных камітэтах разам з ваенным былі абраныя і цывільныя паветовыя паўстанцкія начальнікі. На Вілейшчыне такім кіраўніком быў памешчык Асцюковіцкага маёнтка Канстанцін Тукала (1819-1880), родны брат вілейскага маршалка Мечыслава Тукалы.

Улады пастаянна дакладвалі вышэйшаму начальству аб абставінах у павеце. Спачатку яны былі трывожныя, але ўжо да канца мая ў іх было больш аптымізму і ўпэўненасці. Так у рапарце ваеннага начальніка Вілейскага павета ад 27 мая палкоўнік князь Хаванскі даносіў, што ў раёне Вішнеўскага возера сканцэнтраваны два атрады паўстанцаў па 300 чалавек у кожным. Перабольшваннем, як бачна з дакументаў, займаліся абодва бакі, тым самым павышаючы значнасць сваіх перамог. Для іх праследавання ў мястэчка Кабыльнік прыбылі рэгулярныя войскі. З боку Хаванскага, каб не дапусціць паўстанцаў у Вілейскі павет, на яго мяжу ў вёску Іжа было паслана паўтары роты пад камандаваннем капітана Дзмітрыева. На світанні 24-га мая выстаўлены ім дазор данёс, што "шайка мяцежнікаў" колькасцю каля 300 чалавек рухаецца ў напрамку вёскі Любкі. Паднятыя па трывозе салдаты, рассыпаўшыся ланцугом, кінуліся ў пагоню. Паўстанцы, адстрэльваючыся, адступілі ў лес. Пры набліжэнні туды ваенных касінеры з крыкамі "ўра" контратакавалі іх. Завязаўся крывапралітны бой. Толькі з дапамогай падаспеўшых рэзерваў, у тым ліку і казакоў, рады паўстанцаў былі змятыя і рассеяныя. Бой адбываўся ў нязручным месцы – сярэдзіне трохкутніка, створанага вёскамі Вуткі, Каралеўцы і Любкі. Да цяперашняга часу мясцовыя жыхары называюць гэтае месца "бітымі лагамі". Паўстанцы, па іх звестках, страцілі тут 6 забітымі і 23 прапаўшымі, што складалі ядро атрада Свянцянскага павета. У яго складзе прымаў актыўны ўдзел у справах і бацька беларускага паэта-дэмакрата Адама Гурыновіча.



У 1930 годзе на сродкі нашчадка мясцовага паўстанца – пана Мечыслава Багдановіча з Абадоўцаў – на пляцы мястэчка Ілья быў узведзены велічны дваццаціметровы мемарыяльны помнік-капліца "У гонар палеглых за вольнасць. 1863 г.". На яго ўрачыстым адкрыцці прысутнічаў прэзідэнт Польшчы Ігнацы Масціцкі. На гэтай фатаграфіі вы бачыце манумент, сфатаграфаваны ў 1930-я гады.

У пачатку 50-х гадоў мінулага стагоддзя на працягу 6 месяцаў манумент дзяўблі і разбіралі па кавалачках прызыўнікі тагачаснага Ільянскага раёна. Вельмі моцная, зробленая па сумленні, была тая кладка, як і памяць у народзе аб сапраўдных патрыётах сваёй Радзімы, здольных павесці нават у няроўных умовах барацьбу за нацыянальнае вызваленне Бацькаўшчыны.

Фота з архіва Анатоля РОГАЧА.

Уцалелыя касінеры адышлі ў лясы Дзісненскага павета, у якім Козел-Паклеўскія мелі другі радавы маёнтак Бярозаўку, які таксама скарыстоўвалі паўстанцы. Гэта былі апошнія на Вілейшчыне баявыя дзеянні той пары.

У чарговым данясенні мясцовай адміністрацыі за 18 чэрвеня 1863 года ўжо паведамлялася аб адсутнасці ў павеце "мяцежніцкіх шаек", за выключэннем Батурынскай воласці (пазней была перанесена ў Хаценчыцы), дзе для іх спрыялі добрыя ўмовы як па характару мясцовасці, так і згрупаванасці там дробных памешчыкаў, якія забяспечвалі паўстанцаў неабходным харчаваннем і схованкамі. З гэтай нагоды ў Лукаўцы былі сканцэнтраваны 3 роты Астраханскага грэнадзёрскага палка пры 6 казаках. Дзве роты таго ж палка пад кіраўніцтвам маёра Галяншчава-Кутузава размясціліся ў вёсцы Дзвіноса Даўгінаўскай воласці. У Вілейцы для аховы горада і канваіравання транспарту і палонных заставаліся 2 роты Новаінгерманландскага пяхотнага палка. Па адной такой роце былі высланы да Любані і Куранца.

Паступова рэвалюцыйная барацьба ў Беларусі і на Літве затухала, а ў 1864 годзе была поўнасцю задушаная. Многія яе ўдзельнікі былі арыштаваныя. Турмы, у тым ліку і Вілейская, нядаўна пабудаваная і фактычна стаяўшая пустой, адразу напоўніліся змагарамі за свабоду. Пасля нядаўніх судовых разбіранняў адны атрымалі пакутлівы шлях на катаргу або ў ссылку, іншыя – на эшафот. Сярод іх і 26-гадовы Кастусь Каліноўскі, які стаў нашым нацыянальным героем.

Усяго на Беларусі (па дадзеных айчынных даследчыкаў) прыводзяцца наступныя лічбы пакараных: смерцю – 128 чалавек, высылкай на катаргу і на вечнае пасяленне ў Сібір – 1329 чалавек, 825 чалавек высланы на пасяленне ў іншыя аддаленыя раёны Расіі з паражэннем у правах, 320 чалавек адпраўлены ў армію радавымі, 767 чалавек – у арыштанцкія роты. У адміністрацыйным парадку высылалася яшчэ 7836 чалавек. Агульная колькасць тых, што падвергліся высяленню, дасягнула 12483 беларусаў. Значная частка паўстанцаў загінула ў жорсткіх схватках з непрыяцелем ці памерла пазней ад набытых ран.

Асобны спіс "злодзеяў", маёмасць якіх належала канфіскацыі ў казну, складалі асобы, "бывшие предводителями мятежнических шаек и участвовавшие в оных, убитые в делах с войсками или неизвестно куда скрывавшиеся". Сярод іх браты Козелы, Густаў Чаховіч, Юліян Бакшанскі.

Па Вілейскім павеце прыцягваўся па справе ўдзелу ў паўстанні і пазбаўляўся правоў з канфіскацыяй іх маёмасці на карысць дзяржавы яшчэ шэраг прадстаўнікоў слаўнага роду Козел-Паклеўскіх. Гэта Восіп Козел. Бацька яго меў маёнтак у Сэрвачы. Магчыма, ён з'яўляўся адным з братоў кіраўнікоў паўстання. Аўгуст Козел пражываў пры мацеры ў маёнтку Баркоўшчына. Яўстафій Козел, дваранін, бацькі мелі зямлю, на якой працавала 300 часоваабавязаных сялян і дваранін Павел Козел.

Сярод іншых асоб такое ж пакаранне атрымалі дваране Станіслаў Фельдберг, Леанард Рагановіч, Андрэй Кацела, Фама Вілейка, Уладзіслаў Шафкоўскі, Людвік Васілеўскі, аднадворцы Восіп Ржэчыцкі і Юры Самотны, службовец Вілейскага паветовага суда Генрых Навакоўскі. Дваранін маёнтка Сакаўшчына Вікенцій Казлоўскі, бацькі якога валодалі 190 валокамі ворнай зямлі, быў высланы ў Тульскую губерню.

Вядома яшчэ некалькі ўдзельнікаў паўстання – нашых землякоў.

Эдвард Клямята, жыхар вёскі Лявонавічы, быў вучнем каваля ў Мінску. За ўдзел у паўстанцкім атрадзе А.Трусава сасланы ў арыштанцкія роты Яраслаўскай губерні. Аляксандр Аскірка, уладальнік фальварка Раеўшчына, член Правінцыяльнага камітэта, сын падкаморыя Уладзіслава і Ядвігі з Гецэвічаў, якія мелі двухтысячны маёнтак у Вязыні. Яго памочнікам быў уладальнік Абадоўскага маёнтка Ян Багдановіч.

Значную дапамогу нацыянальна-вызваленчаму руху сваім землякам аказваў сасланы яшчэ раней у Сібір уладальнік Кацярынінскага і некалькіх вінакурных заводаў у Пермскай губерні А.Козел-Паклеўскі. Яму прыпісваюць высылку на патрэбы рэвалюцыйнаму камітэту 50 тыс. рублёў. Пазней прымаў у сябе рэпрэсіраваных удзельнікаў паўстання.

Царскі ўрад , як і не раз раней, зноў святкаваў перамогу. На доўгія гады Беларусь стала арэнай нацыянальнага прыгнёту і безупыннай русіфікацыі. Мясцовыя кадры замяняліся больш вернымі царскай палітыцы людзьмі, назначаючы ім большыя аклады з перспектывай хутчэйшага росту кар'еры. Многія касцёлы ператвараліся ў праваслаўныя цэрквы.

Закладзены ў 1861 годзе Вілейскі касцёл праз 2 гады быў амаль гатовы да адкрыцця, як выйшла распараджэнне аб спыненні тут работ і яго закрыцці. Куранецкі ксёндз, асабіста фарбаваўшы вохрай вежы гэтага касцёла, неспадзявана арыштоўваецца і ссылаецца ў Сібір. Выявілася, што большая частка ахвяраванняў, збіраемая на касцёл, ішла на фарміраванне паўстанцкіх атрадаў. Толькі ў 1874 годзе будаўніцтва было завершана, і ў прысутнасці мітрапаліта Іосіфа быў асвечаны другі ў горадзе праваслаўны Свята-Георгіеўскі храм, разбураны ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Першы ж мураваны храм з'явіўся на 10 гадоў раней. Памешчык Разанскай губерні камер-юнкер Рэдзькін ахвяраваў свае 11,5 тысячы рублёў на ўзвядзенне царквы ў гонар перамогі расійскіх войск над паўстанцамі. У сувязі з вышэй вядомымі падзеямі Вілейка набыла вядомасць. Генерал-губернатар Паўночна-Заходняга краю Мураўёў, празваны за свае крывавыя дзеянні яшчэ і "вешацелем", з блаславення таго ж мітрапаліта вызначыў месцам пабудовы храма наш горад. 22 жніўня 1864 года пяцігаловая царква ў імя святой Марыі Егіпецкай адчыніла свае дзверы вернікам.

На Вілейшчыне знаходзіцца некалькі памятных мясцін, звязаных з гераізмам паўстанцаў, якія палажылі жыцці на алтар свабоды. Акрамя ўжо згаданых, варта ўспомніць і астатнія, некаторыя з якіх, на вялікі жаль, пазней былі знішчаныя.

Частка загінуўшых змагароў за свабоду была пахавана ў брацкай магіле каля касцёла (цяпер не існуе) у мястэчку Куранец. У 1923 годзе на ёй быў устаноўлены бетонны крыж з подпісам "18 паўстанцаў. 1863 г.". У той жа час на тэрыторыі сучаснай бальнічнай установы ўзведзены арыгінальны помнік-абеліск, выраблены з дрэва і гіпсу, і ўстаноўлены на пастаменце. У перыяд уз'яднання Заходняй Беларусі з БССР быў ліквідаваны. Тады ж на пастаменце з'явілася дэкаратыўная ваза, прыстасаваная пад кветнік.

Па некаторых звестках, у брацкай магіле пад Уладыкамі было пахавана звыш ста паўстанцаў атрада В.Козела, загінуўшых у дзень боя 16 мая, а таксама падабраных назаўтра на другім беразе Іліі, якія памерлі там ад атрыманых ран. З пакалення ў пакаленне перадаецца нібыта сказаныя смяротна параненым камандзірам апошнія словы "Не мы, дык нашы косці здабудуць вольнасць".

У 1933 годзе на тым месцы быў насыпаны курган, які ўвянчалі надмагільная пліта і высокі крыж з прымацаванай да яго мемарыяльнай дошкай, што збераглася, хоць і ў пашкоджаным відзе, да нашых дзён. Па ўспамінах Юзафа Дуброўскага, там знаходзілася 121 прозвішча. Сярод іх сцяганосец атрада Дамінік Козел, імя якога потым было ўвекавечана ў Касцяневіцкім парафіяльным касцёле. Паходзіў з Мядзельшчыны. Штандарт атрада быў захоплены непрыяцелем, пазней захоўваўся ў фондах Віленскага музея старажытнасцей.

Далей у спіску ішлі: Альфрэд і Эрнест Ратынскія з Краснага. Трэці іх брат Здзіслаў уцалеў, але меў на целе 17 колатых ран; браты Вінцэнт і Ірыней Адыніцы; браты Мурашкавы; бацька з сынам Радрыніцы, Шаткоўскі з Глыбачан, ксёндз Антон Гвалдзейцкі з Ваўкалаты, Даманоўскі з Мінска, Ляшкевіч з Ашмяншчыны, Валіцкі (афіцэр), Сухоцкі (доктар), Мікалай Даукша, Генрык Козел, Генрык Тышкевіч, Яўстахій Копаць з в.Шыкі, Людвік Васілеўскі і Оберт (татарын) з Даўгінава.

Па сведчанні Ф.Сяліцкага, два апошнія былі пахаваныя побач з дарогай, што выходзіла з Даўгінава на Пагост. Калі гэта было магчыма, то некаторыя з паўшых паўстанцаў, такім чынам, маглі знайсці свой апошні прытулак у Сэрвачы і Куранцы.

**Анатоль РОГАЧ.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Твае акуляры

**Ужо ў старажытным Кітаі маладым жанчынам прадпісвалася берагчы вочы і вейкі ад сонца, каб засцерагчыся ад ранніх маршчынак і выгарання вачэй. Але акуляраў тады не было. Каб аберагчы вочы, насілі спецыяльныя капелюшы з лісця. Японцы надзявалі на галаву раменьчык, да якога мацаваліся "аканіцы" для вачэй. У старажытнай Індыі багатыя жанчыны прыклейвалі на верхнія вейкі стужачкі прасмоленага шоўку.**

Пра тое, што шарападобнае шкло павялічвае прадметы і літары, людзі заўважылі даўно. Арабскі навуковец Ібн-аль-Гайсам апісаў цудадзейныя ўласцівасці такога шкла. Але ідэя ўжываць павелічальныя лінзы як акуляры з'явілася толькі ў XIII стагоддзі. Англійскі навуковец Бэкан напісаў пра гэта цэлую працу. Хаця згадванне аб ужыванні шліфаваных крышталяў сустракаецца яшчэ ў антычных аўтараў. Развітая тэхніка вытворчасці лінзаў для акуляраў з'явілася падставай бурнага прагрэсу ў канструяванні і вырабе аптычных сістэм з пачатку 17-га стагоддзя, у эпоху навуковых адкрыццяў у оптыцы, звязаных з імёнамі Галілея, Кеплера, Дэкарта, Ньютана і інш.



**На працягу многіх гадоў акуляры застаюцца ў модзе. Іх носяць не толькі тыя, хто мае праблемы са зрокам. У Еўропе акулярамі з дыоптрыямі і сонцаахоўнымі карыстаюцца практычна ўсе. Англічане зазвычай маюць па адной пары акуляраў, французы – больш трох, немцы – больш за чатыры. Італьянцы ўвогуле набываюць па шэсць–сем пар акуляраў. У беларусаў пакуль не склалася культура нашэння акуляраў. Тым не менш іх таксама носяць не толькі людзі з аслабленым зрокам.**

Фота з архіва "РГ".

Першыя акуляры былі мала падобныя на сучасныя. Яны ўяўлялі сабой проста круглыя лінзы ў аправе. Вынаходнікам доўга не ўдавалася прыдумаць спосаб мацавання акуляраў каля вачэй. З'явіліся парнеты, маноклі, лінзы якіх мацаваліся да капялюшыка. Амаль пяцьсот год спатрэбілася для таго, каб насадзіць лінзы ў аправе на нос з дапамогай дужак.

Хто быў аўтарам такога вынаходніцтва, да гэтага часу спрачаюцца між сабой фларэнційцы, пізанцы і венецыянцы.

Спачатку людзі прынялі акуляры вельмі насцярожана. Некаторыя нават ахрысцілі іх "праклятым інструментам д'ябла". Хадзілі чуткі, што магічныя лінзы акуляраў могуць высмактаць вочы. У Францыі да XVII стагоддзя насіць акуляры на людзях лічылася дурной звычкай. На землі Вялікага Княства Літоўскага акуляры патрапілі хутчэй за ўсё ў XV-XVI стагоддзях. Шкельцы падбіралі самі купцы.

Два стагоддзі таму з'явіліся сонцаахоўныя акуляры. Іх рабілі наступным чынам – звычайныя акуляры з дыоптрыямі пакрываліся фарбай, лакам, рознымі напыленнямі. Спрабавалі нават шліфаваць шкельцы з дарагіх каменяў. Але такія акуляры каштавалі вельмі дорага, і была высокая верагоднасць атрымаць сонечны апёк.

Прамысловы выраб сонцаахоўных акуляраў вядзе адлік ад Напалеона, які распарадзіўся забяспечыць сонцаахоўнымі акулярамі жаўнераў, якія ваявалі пад яго камандай у Афрыцы. А ўжо ў мінулым стагоддзі, у другую сусветную вайну, акуляры аналагічнага прызначэння паступілі ў экіпіроўку амерыканскіх марскіх пехацінцаў.

Мінулае стагоддзе нарадзіла таксама такую разнавіднасць акуляраў, як кантактныя лінзы. Яны аптычна пераўзыходзяць звычайныя акуляры тым, што яны паўтараюць усе рухі вочнага яблыка, на паверхню якога яны непасрэдна накладваюцца. Так званыя мікракарнеальныя кантактныя лінзы выраблюцца або са шкла, альбо (часцей) з гнуткага пластычнага матэрыялу. У апошнім выпадку яны прымаюць форму паверхні вочнага яблыка пры ўсіх яе змяненнях.

На змену кантакным лінзам і акулярам сёння таксама прыйшла лазерная карэкцыя зроку.

**Якім ПЯРЭЧКА.**

## Магутны штрых да партрэта чалавека

**Можна быць чалавекам справы і ўсё адно думаць пра акуляры. Акуляры – адна са складаных частак іміджу. Яны могуць паўплываць на рэпутацыю чалавека, які іх надзеў. Могуць падкрэсліць, кім з'яўляецца іх гаспадар або наадварот, увесці ў зман. І тут не лішне суаднесці свой выбар з думкай стылістаў, візажыстаў. Прыгледзьцеся, якія аправы выбіраюць паспяховыя бізнесмены, палітыкі, людзі мастацтва.**

Здараецца, што чалавеку ўсё адно, як выглядаюць яго акуляры. Прычым не толькі тым, каму абыякавы свой выгляд. Проста часам людзі недааацэньваюць ролю акуляраў у ягоным фарміраванні.

**Між тым, калі прааналізаваць кантынгент пацыентаў, якія падвергліся лазерным і іншым аперацыям па выпраўленні зроку, то можна знайсці дзіўную заканамернасць: як правіла, яны насілі не проста блага падабраныя, але, больш таго, непрыгожыя, несучасныя акуляры.**

Прыгажосць і здароўе заўсёды былі ўзаемазвязаны. Многія, напрыклад, адчуўшы нелады са зрокам, не спяшаюцца звяртацца да доктара. У той самы час на захадзе 10% людзей надзяваюць звычайныя ("нулявыя"), не сонцаахоўныя акуляры, хаця маюць 100-працэнтны зрок. Магчыма, акуляры папросту сталі сімвалам сацыяльнага становішча. Яны могуць падкрэсліць, да якога сацыяльнага кола чалавек адносіцца, наколькі ён інтэлігентны, рэспектабельны, смяшлівы або строгі. І ўсё больш людзей пачынаюць разумець, што акуляры адносяцца да тых найважнейшых аксесуараў, якія фарміруюць імідж. Гэта магутны штрых да партрэта чалавека.

**Хочам мы таго або не, але акуляры, калі мы іх надзелі, становяцца візітоўкай. Яшчэ з часоў Гамера яны не абмяжоўваліся выкананнем сваіх асноўных функцый. Акрамя карэкцыі зроку і аховы ад выпраменьванняў, сучасныя акуляры нібы імкнуцца прадставіць тым, хто навокал. І пра многае расказаць.**

Яны дапамогуць падкрэсліць індывідуальнасць, зрабіць патрэбнае ўражанне на субяседніка. Многія людзі прыкмета паляпшаюць такім чынам свой знешні выгляд. Умела падабраўшы аправу, выглядаюць больш стыльна і значна.

**Таму такі разнастайны дызайн акуляраў. Можна, напрыклад, падабраць аправу, якая зробіць мужчыну больш мужным, а жанчыну – больш жаноцкай. І пры гэтым змяніць свой імідж у лепшы бок. Тут акуляры – найкаштоўнейшая знаходка, асабліва для мужчын.**

**Валерый ІВАНІДЗЭ.**

## Метал у вачах

**Якая аправа лепшая – пластмасавая або металічная.**

Пластмасавая каштуе танней, выглядае салідней і выдатна падыходзіць тым, у каго поўны твар і буйныя рысы. Металічныя лягчэй, элегатней і універсальней.

Няхай то пластмаса або метал, памятайце – "акулярная" мода патрабуе мінімалізму. Гэта тычыцца як формы, так і таўшчыні аправы. Акуляры павінны быць як мага менш прыкметнымі на твары. Буйныя акуляры адмоўна сказваюцца не толькі на вашым іміджы, але і на зроку. Справа ў тым, што шкло вялікага дыяметра скажае від на перыферыі.

Купляючы аправу, звярніце ўвагу на тое, як да яе мацуюцца завушнікі. Аправу трэба набываць з завушнікамі, якія мацуюцца на так званых флексавых шарнірах – спружынным устройстве, якое дазваляе фіксаваць завушнікі ў кладзеным выглядзе і без рызыкі парушыць або зламаць злёгку адгінаць іх у бакі. Такія завушнікі шчыльна прыціскаюцца да скроняў, выдатна фіксуючы аправу, і ў той самы час дазваляюць без цяжкасцяў здымаць акуляры адной рукой.

**Дзяніс МАРОЗАЎ.**

■ ПАРАДЫ ЎРАЧА

## Калі купляеш акуляры

**1. Калі вы ніколі не карысталіся акулярамі, абавязкова звярніцеся да доктара-афтальмолага або аптаметрыста.**

Тое самае трэба зрабіць, калі акуляры, якія вы носіце, перасталі вам дапамагаць, а таксама вы заказваеце новыя акуляры больш чым праз год пасля наведвання доктара.

**2. Калі вы носіце акуляры даўно, яны вас задавальняюць і вы проста хочаце заказаць новыя, больш модныя альбо тыя, што больш падыходзяць да вашага аблічча,**

пастарайцеся выбраць аправу, форма праёмаў якой мала адрозніваецца ад формы праёмаў у старых акулярах.

**3. Калі вы атрымалі новыя акуляры і яны выклікаюць у вас зрокавы дыскамфорт,**

вам трэба звярнуцца да оптыка і праверыць адпаведнасць акуляраў рэцэпту доктара. Калі памылку не знайшлі, звярніцеся да доктара, які выпісаў вам гэтыя акуляры.

**4. Калі новыя акуляры адрозніваюцца ад тых, якія вы насілі раней,**

напрыклад, у іх не простыя (сферычныя), а астыгматычныя (сферацыліндрычныя) лінзы, альбо прызначаныя для карэкцыі ўзроставай дальнабачнасці (біфакальныя або прагрэсіўныя), то спатрэбіцца час, каб вы да іх прызвычаіліся.

**5. Пры заказе акуляраў оптык-прыёмшчык азнаёміць вас з асартыментам лінз і прапануе выбраць найбольш прыдатныя.**

Пластмасавыя лінзы не саступаюць шкляным па аптычных якасцях, але значна лягчэйшыя і больш бяспечныя – не даюць асколкаў пры ўдары. Яны асабліва паказаны дзецям, спартсменам і людзям траўманебяспечных прафесій.

Асаблівае значэнне матэрыял лінз набывае ў ў акулярах высокіх рэфракцый (звыш за 5–6 дыоптрыяў). Пры гэтым, калі вы хочаце зменшыць вагу акуляраў, то трэба выбіраць пластмасавыя лінзы, а калі вас непакоіць больш знешні выгляд акуляраў, гэта значыць, каб лінзы былі тонкімі, то трэба выбіраць мінеральныя лінзы з высокім паказчыкам пераламлення – 1,7 і вышэй. Звычайнае шкло мае паказчык 1,5.

**6. Ці можна купляць гатовыя акуляры?**

Так, можна. Але толькі пасля кансультацыі доктара-афтальмолага або аптаметрыста і атрымання ад яго рэцэпта. Пры гэтым у рэцэпце павінны быць указаныя лінзы аднолькавай аптычнай сілы і не мацней за ±3 D.

**7. Выбар аправы.**

Звычайна кліента цікавіць больш усяго яе знешні выгляд, адпаведнасць колеру і форме твару, прычосцы, упрыгожванням, вопратцы.

Між тым, з пункту гледжання асноўнага прызначэння акуляраў, галоўным з'яўляюцца зусім іншыя уласцівасці аправы. Аправа павінна добра, зручна сядзець на твары, ні ціснуць ні на нос, ні на вушы, і забяспечваць правільнае становішча лінз перад вачыма.

Акуляры становяцца вашым спадарожнікам на доўгія гады, і ад іхняй зручнасці таксама будуць залежаць вышыя настрой і працаздольнасць!

**Ю. РОЗЕНБЛЮМ, доктар медыцынскіх навук, прафесар, кіраўнік лабараторыі Маскоўскага НДІ хвароб вачэй імя Гельмгольца.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Выбар аправы: раіць урач

**Найчасцей думаюць пра тое, каб аправа была зручнай, стыльнай і пасавала да твару, валасоў, і радзей аб функцыянальным прызначэнні акуляраў – паляпшаць зрок і аблягчаць працу. Між тым менавіта гэтай мэце служаць любыя акуляры і менавіта гэта павінна станавіцца галоўным крытэрыем пры выбары аправы.**

Патрабаванне першае. **Аправа павінна быць трывалай, лёгкай, не цісну**ць. Сярэдняя лінія светлавых праёмаў павінна праходзіць прыкладна праз цэнтр зрэнак або некалькі ніжэй, а задняя паверхня лінзаў павінна знаходзіцца на адлегласці 12 мм ад вяршыні рагавіцы. Выключэнне – акуляры "палавінкі", якія служаць для хуткага пераключэння погляду з дальніх адлегласцей (паверх акуляраў) да блізкіх – скрозь акуляры (успомніце Яўгена Кісялёва).

Далей, **важнае значэнне мае форма светлавых праёмаў**. Адзін час у модзе былі акуляры агромністых формаў. Гэта была вельмі дурная мода. У апошні час мода перамясцілася ў бок акуляраў з маленькімі светлавымі праёмамі. Гэта форма з функцыянальнага пункту гледжання значна лепш акуляраў-гігантаў, але і яна не пазбаўленая недахопаў – звужае вугал погляду, што бывае важна для многіх відаў дзейнасці.

**Лепш за ўсё, каб апорныя элементы мацаваліся непасрэдна да лінзы**, г.зн., каб аправа была "безабадковай" – з мацаваннем лінз на вінтах або лесцы.

Як рэзюме – светлавыя праёмы павінны быць невялікімі, круглыя акуляры лепш за авальныя, а аправы з мацаваннем лінзаў на вінтах або лесцы – лепш за звычайныя аправы.

У гэтых рэкамендацый ёсць выключэнне: калі чалавек заказвае акуляры з біфакальнымі або прагрэсіўнымі (плаўны пераход рэфракцыі ад верхняй да ніжняй часткі) лінзамі, то вертыкальны памер праёму павінен быць дастаткова вялікім – не менш за 40 мм.

Усё сказанае адносіцца да ўласна медыцынскіх рэкамендацый. Але пры выбары аправы трэба абмеркаваць і тэхнічны бок справы. А менавіта, ці пад'ыходзіць выбраная аправа для прызначаных доктарам акуляраў. Вядома, што асферычныя лінзы "капрызлівей" за сферычныя. Вельмі нямногія аправы падыходзяць для лінз высокіх рэфракцый (±6,0 D і вышэй). Істотнае значэнне мае міжзрэнкавая адлегласць. Аправа выбіраецца па твары, які можа быць шырокім (г.зн., адлегласць між вушамі вялікая), а адлегласць між вачамі – маленькая. У гэтых выпадках цэнтры лінзаў трэба змясціць, што не заўсёды пажадана: прыходзіцца браць загатоўкі вялікага дыяметра, і такія лінзы будуць у акулярах тоўстымі і непрыгожымі. Вядома, складанасць для ўстаўкі лінзаў уяўляюць насавыя ўпоры, асабліва ў "складаных" аправах. Бываюць выпадкі, калі пасля ўстаўкі лінзаў акуляры перастаюць складвацца, што выклікае незадавальненне кліента.

Выбар аправы да акуляраў даастаткова адказная працэдура, якая мае медыцынскія і тэхнічныя аспекты. Таму пажадана, каб у ёй удзельнічалі і кваліфікаваны оптык, і доктар-афтальмолаг.

**Ю. РОЗЕНБЛЮМ, доктар медыцынскіх навук, прафесар, кіраўнік лабараторыі Маскоўскага НДІ хвароб вачэй імя Гельмгольца.**

## Макіяж і акуляры

**Візажысты распрацавалі спецыяльны макіяж для жанчын у акулярах. Макіяж для людзей, якія пакутуюць на блізарукасць ці дальназоркасць, адрозніваецца, бо лінзы акуляраў маюць розныя вымярэнні, і вочы скрозь іх выглядаюць па-рознаму.**

Накладваць цені, падводзіць вочы **дальназоркім** трэба слабей, не так бачна, бо шкло акуляраў надае іх вачам павялічаную, выпуклую форму. Для макіяжу могуць быць выкарыстаны спакойныя, пастэльныя тоны, напрыклад, шэрыя, дымкавыя, цёмна-карычневыя. Макіяж не павінен быць яркім, таму не трэба наносіць на падброўную прастору перламутровыя ці яркія цені. Празмерна цёмнае (чорнае, сіняе, карычневае) фарбаванне вейкаў, броваў таксама не пажадана.

Жанчынам, якія пакутуюць на **блізарукасць**, макіяж вачэй трэба рабіць больш інтэнсіўным, наносіць цені больш яркія, фарбаваць вейкі мацней, бо шкло акуляраў значна памяншае вочы. Пры фарбаванні вейкаў можна падкручваць іх, надаваць ім загнутую форму. Доўгія вейкі надаюць вачам зачараванне і загадкавасць.

Для таго, каб вочнаяяміна (скура вакол вачэй) не здавалася аддзеленай ад усяго макіяжу, яе трэба затаніраваць больш цёмнай рассыпной пудрай ці нанесці пэмазком румяны.

**Да тонкай металічнай**, а таксама **блакітнай аправы** больш падыдуць колеры з "халоднай" групы, напрыклад, бэзавыя, перламутравыя, дымкава-шэрыя, серабрыста-блакітна-шэрыя. Але пры гэтым твар ажывіць румянец і больш інтэнсіўны колер скуры. Для гэтага выкарыстоўваюць танальны крэм, больш загарэлы. **Для тонкай аправы залацістага колеру** ці **пластмасавай рагавой празрыстага колеру** падбіраюць карычневыя, бэжавыя цені, карычневы контурны каранадаш для вачэй, чорны ці цёмна-чырвоны з карычневым. Халодныя тоны не выкарыстоўваюць, падбіраюць адценні цёплай групы колераў.

Можна пры выбары аправы акуляраў выкарыстаць параду вопытных работнікаў прылаўка, стыліста, візажыста. **Некаторыя парады** можна даць і цяпер: **не трэба ўвесь час насіць цёмную аправу**, яна можа надаць твару больш строгі выгляд, маладыя будуць выглядаць старэйшымі. **Пастаянна насіць акуляры з цёмным шклом таксама не варта**, бо вы будзеце нагадваць персанаж з гангстэрскіх фільмаў. Лепш мець некалькі пар акуляраў рознага колеру і формы, надзяваць іх у залежнасці ад часу дня і мерапрыемства, на якое вы збіраецеся. Пры выбары аправы памятайце і аб прапорцыях не толькі твару, але і ўсяга вашага цела, і тады акуляры могуць не толькі дапамагчы зроку, але і быць упрыгожаннем вашага твару.

**Пры нашэнні лінзаў** для таго, каб быў касметычны эфект, неабходна прытрымлівацца вызначаных правілаў. **Пры выбары лінзаў** перш за ўсё варта звярнуцца за кансультацыяй да вопытнага спецыяліста і ў далейшым выконваць рэкамендацыі пры захоўванні і дэзінфекцыі лінзаў, правілы асабістай гігіены.

Варта памятаць, што здымаюць лінзы да зняцця макіяжу, а ўстаўляюць іх да нанясення касметычных сродкаў. З любым парушэннем зроку (пачырваненне вачэй, слёзавыдзяленне, недакладнасць бачання) неабходна звярнуцца да спецыяліста. Калі вы носіце каляровыя лінзы, то не імкніцеся адразу перамяніць каляровую гаму вашага макіяжу. Макіяж выконваецца ў той жа паслядоўнасці, як і звычайны для вас, за адной толькі розніцай, што патрабуецца больш увагі да ценяў, якія наносяцца вакол вачэй. Лепш карыстацца аплікатарам, а таксама выкарыстоўваць кампактныя цені, а не рассыпныя.

Трэба сачыць, каб касметычныя сродкі не трапілі ў вочы на лінзы, бо гэта можа выклікаць слёзавыдзяленне.

Калі выбіраеце падводку для верхняга і ніжняга павека, цені падброўнай прасторы, туш для вейкаў, арыентуйцеся на ваш воблік у цэлым.

## Дзіцячыя акуляры

**Жыццё дзіцячых акуляраў карацейшае і больш цяжкае, чым жыццё акуляраў, прызначаных для дарослых, таму для яго падаўжэння пажадана выкарыстоўваць асабліва трывалыя матэрыялы.**

Футаралы для дзіцячых акуляраў таксама распрацоўваюцца з улікам "спецыфікі" выкарыстання ранцаў і школьных сумак у якасці зброі і зімовых санак. Футаралы абавязкова павінны быць цвёрдымі, трывалымі, мець акруглыя формы і надзейна закрывацца.

Наступнай па значнасці якасцю дзіцячых акуляраў павінная стаць іхняя камфортнасць і зручнасць. Сёння ёсць шмат спосабаў зрабіць дзіцячыя акуляры максімальна зручнымі. На наканечнікі металічных завушнікаў надзяваюць спецыяльныя "чахольчыкі", якія забяспечваюць максімальны камфорт пры кантакце з далікатнай дзіцячай скурай.

І бяспечнасць, і камфорт – гэта "дарослыя" крытэрыі. Але акуляры ўсё ж будзе насіць дзіця. Таму да яго меркавання таксама трэба прыслухоўвацца.

## Вядомыя брэнды

**Па дадзеных французскага часопіса «L'Essentiel de l'optique», у 1993 годзе было зарэгістравана 23 тысячы гандлёвых марак (брэндаў), у 1996 годзе – ужо 26 тысяч, а ў 2000 годзе іх колькасць дасягнула 30 тысячаў. І па ўсёй верагоднасці – гэта не мяжа.**

Згодна з рэйтынгам, у дзесятку самых магутных брэндаў свету ўваходзяць «Coca-Cola», «Walt Disney», «Nike», «BMW», «Porsche», «Mercedes-Benz», «Adidas», «Rolls-Royce», «Calvin Klein» і «Rolex». Важнае значэнне маюць брэнды і ў сектары акулярнай оптыкі. Сёння калекцыі, якія носяць імёны вядомых гандлёвых марак, займаюць 26 працэнтаў агульнага рынку. Калі ў 80-я гады асноўнай прыкметай прыналежнасці аправы да вядомай гандлёвай маркі быў лагатып, як можна больш прыкметны на аправе, то цяпер большая ўвага надаецца падтрыманню стылю і дызайну калекцыі акуляраў агульнай канцэпцыі маркі.



Асаблівая далікатнасць патрабуецца пры стварэнні калекцый, якія носяць імёны вядомых дызайнераў моднага адзення і модных дамоў. У гэтым выпадку справа не абмяжоўваецца кансультацыямі і ўзгадненнямі. Калі параўноўваць рэйтынгі марак калекцый адзення і калекцый акуляраў, то аказваецца, што яны ў многім супадаюць, хаця, канечне, ёсць і спецыфічныя "акулярныя маркі", якія традыцыйна карыстаюцца вялікай папулярнасцю.

Калі гаварыць пра сонцаахоўныя акуляры – гэта адзін з самых запатрабаваных аксесуараў, а іхняя пакупка – самы просты спосаб далучыцца да свету той маркі, якая адпавядае вашаму ўяўленню аб сабе і аб вашым месцы ў гэтым свеце. У нашыя дні аптычная індустрыя заяўляе аб сабе як аб частцы індустрыі моды, і канечне, выкарыстанне раскручаных брэндаў – найбольш хуткі і эфектыўны спосаб зацвердзіцца ў гэтай новай якасці. Найбольш "раскручаныя" брэнды на рынку акуляраў:

| | |
|---|---|
| Versace | Anna Sui |
| Vivienne Westwood | Blumarine |
| Prada | Burberry |
| Marc O'Polo | Chanel |
| La Perla | Disel |
| Kipling | Givenchy |
| John Galliano | Gucci |
| Iceberg | HugoBoss |
| JPG | JPG |
| Giorgio Armani | MaxMara |
| GaiMattiolo | Missoni |
| ETRO | Nina Ricci |
| Chloe | Paloma Picasso |
| Alexander McQueen | Prada |
| Dolce & Gabbana | Romeo Gigli |
| Salvatore Ferragamo | Trussardi |

**Дар'я РЫЛЕВІЧ.**

## Выбар аправы: раіць візажыст



**Круглы твар. Выбірайце аправу авальнай формы.**



**Твар у форме сэрцайка. Вам падыходзіць аправа "кашачыя вочкі" – яна адцягвае ўвагу ад вузкага падбародка.**



**Квадратны твар. Аправа "кашачыя вочкі" або авальная зрокава падоўжыць твар і падкрэсліць скулы.**



**Вельмі высокі лоб. Выбірайце акуляры з падкрэсленай верхняй лініяй аправы – гэта адцягне ўвагу ад ілба.**



**Падоўжаны твар. Верхняя лінія аправы павінная быць не вышэй за лінію броваў, а ніжняя граніца вельмі апушчаная.**



**Авальны твар. Вам падыходзіць большая частка аправаў, але лепш за ўсё квадратныя са скругленымі вугламі.**

**Анастасія ПРОХАРАВА.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



■ КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Калі завершыцца рамонт?

**МАЛАДЗЕЧНА. З сярэдзіны лістапада па вуліцы Ф.Скарыны ў дварах дамоў №№4, 4-а, 6... робіцца рамонт цеплатрасы. Усё раскапана, трубы на паверхні да гэтай пары. Цяперашняя ж зіма на маразы не скупіцца. Ці не застануцца людзі без ацяплення і гарачай вады, як у некаторых гарадах Беларусі і Расіі?**

Гэтыя ж дамы адносяцца да ЖРЭУ-3. Менавіта туды і звярнулася карэспандэнт "РГ", каб даведацца, калі завершыцца рамонт. Галоўны інжынер Галіна Мір сказала, што гэта не іхняя справа. Рамонт робіць УП "Камунальнік". Але як спецыяліст запэўніла, што калі на трубах дастатковая ізаляцыя, то шкоды ад маразоў не будзе.

Патлумачыла сітуацыю галоўны інжынер УП "Камунальнік" Наталля Старавойтава. Рамонт робіцца ў сувязі з тым, што ў гэтых дамах пастаянна холадна з-за маленькага дыяметра трубаправодаў. Іх трэба замяніць на трубы з большым дыяметрам. Разам з гэтым яшчэ прадугледжана і замена сістэмы гарачага водазабеспячэння.



На вуліцы Ф.Скарыны ў дварах дамоў №№4, 4-а, 6... рамонт доўжыцца з восені. Фота Ірыны РАБУШКІ.

Цяпер падача цяпла ў гэтых дамах з-за рамонту не парушана. Трубы знаходзяцца ў ізаляцыі. Своечасова рамонт не завяршылі, бо не было грошай. Калі яны з'явіліся – наступілі маразы. Перапады тэмпературы перашкаджаюць усё давесці да толку. Трэба ж будзе "спыніць" гэтыя дамы на суткі. Калі тэмпература паветра некалькі дзён пратрымаецца 0... –2 градусы, рамонт адновяць, — суцешыла Н.Старавойтава.

Ірына РАБУШКА.

■ НАВІНЫ

## Вытворчасць павялічылася, але мала

**МЯДЗЕЛ. З 9 прагнозных паказчыкаў развіцця ў 2002 годзе прадпрыемствы раёна выканалі толькі 4.**

Прамысловая вытворчасць у параўнанні з 2001 годам павялічылася на 0,3% (планавалася 6%). Падвялі Нарацкі завод напояў, доследная рыбная гаспадарка "Нарач" і хлебазавод у райцэнтры — яны зменшылі вытворчасць. Разам з тым, прамысловасць Мядзельшчыны перакрывае паказчык 1990 года амаль на трэць.

## Дэмаграфічная сітуацыя пагаршаецца

**МЯДЗЕЛ. Па-ранейшаму ў раёне смяротнасць перавышае нараджальнасць, і розніца паміж гэтымі паказчыкамі большае за апошнія гады.**

Так, летась нарадзілася 268 чалавек, а памерла 848. У параўнанні з 2001 годам, нараджальнасць крыху павялічылася (на 5 дзяцей), але памерла на 152 чалавекі больш.

## Дэпутаты зацвердзілі бюджэт

**МЯДЗЕЛ. У аўторак на сесіі раённага Савета дэпутатаў зацвердзілі бюджэт раёна на 2003 год.**

Ён складае 12 мільярдаў 800 мільёнаў рублёў. Амаль 80 % грошай пойдзе на сацыяльную сферу. Найбольш выдаткаў запатрабуе адукацыя — 46 % ад усіх.

Алесь ВЫСОЦКІ.

## Ратуюць рыбу

**СМАРГОНЬ. На сажалках мясцовага рыбгаса, дзе гадуюцца рыбныя малькі (пасадачны матэрыял) утварыўся лёд у 30 сантыметраў таўшчынёй.**

Рыбкі знаходзіліся пад пагрозай вымірання ад адсутнасці кіслароду. У лёдзе прабіваюць палонкі, каб паступала больш кіслароду.

Ветурач Мікалай Мілешчык з ветсанітарам сочыць за сажалкамі, 2 разы на месяц правярае ваду і ўпэўнены, што рыбы перазімуюць добра.

Тарэса КУМІШЧА.

## Рыхтуюцца ток-шоу

**ВІЛЕЙКА. 14 студзеня ў райвыканкоме адбылася сустрэча прадстаўнікоў улады і грамадскіх арганізацый з прадстаўнікамі міжнароднай некамерцыйнай арганізацыі "InterNews" і Фонду садзеяння інфармацыйнаму развіццю.**

Мэта сустрэчы – пачаць падрыхтоўку дзесяці ток-шоу, на якіх будуць разглядацца лакальныя сацыяльныя праблемы. Гэта дазволіць раскрыць і, магчыма, паспрыяць іх рашэнню. Ток-шоу будуць транслявацца па Вілейскім кабельным тэлебачанні, супрацоўнікі якога атрымаюць тэхнічную дапамогу і пройдуць пэўнае навучанне. Цяпер пачаўся этап выбару канкрэтных тэмаў для ток-шоу.

Віталь ПАЎЛОЎСКІ.

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Злодзеі ў вайсковай часці

МАЛАДЗЕЧНА. З вайсковай часці, што ў Красным, выкралі 21 прыбор начнога бачання і 15 армейскіх радыёстанцый.

Праводзіцца праверка.

## Падрабілі грошы

МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак у аддзяленні Нацыянальнага банка выявілі падробленую купюру ў 5000 беларускіх рублёў. Гэта адбылося падчас пераліку грашовай выручкі.

Узбуджана крымінальная справа.

## І бульба, і мяса...

МАЛАДЗЕЧНА. У ноч з нядзелі на панядзелак з хлява гараджанкі выкралі 16 курэй, 3 мяхі бульбы і мех буракоў.

Наступнай ноччу ў вёсцы Заскавічы злодзей выкраў кусок мяса, вагой каля 7 кілаграмаў. Яно ляжала ў паветцы.

У абодвух выпадках узбуджана крымінальная справа.

## «Угналі»... каляску

МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак каля 13 гадзін з дзіцячай паліклінікі злодзей выкраў дзіцячую прагулачную каляску.

Нарад патрульна-паставой службы міліцыі і служба хуткага рэагавання каляску знайшлі ў інтэрнаце па вуліцы Касманаўтаў, 21. Злодзей вядомы.

## Наркотыкі

МАЛАДЗЕЧНА. 14 студзеня а палове 8-й гадзіны вечара патрульна-паставая служба міліцыі затрымала на вуліцы Касманаўтаў 28-гадовага хлопца. Ён быў у наркатычным ап'яненні. У яго адабралі шпрыц з рэшткамі вадкасці бурага колеру.

Праводзіцца праверка.

Ірына РАБУШКА.

# Фіктыўны развод

Часам дзеля ўпарадкавання маёмасці бывае патрэбны не толькі фіктыўны шлюб, але і фіктыўны развод. Вось пра гэта я і распавяду наступную гісторыю. Справа адбывалася ў вельмі добрай сям'і. Спраўна жылі, дружна. Двое дзетак. І вось у спадчыну атрымалі кватэру. Каб як лягчэй перааформіць, пракансультаваліся ў юрыста. Той сказаў, што каб яны развяліся ды жылі паасобку, дык праблем бы не было ўвогуле.

Выйшлі з юрыдычнай кансультацыі крыху засмучаныя. Але ж у якой сям'і ёсць лішнія грошы? Таму мужык пастанавіў: будзем разводзіцца. Фіктыўна. Жонка ў непаразуменні: а што ж скажуць людзі? Дваццаць год душа ў душу – і вось вынік?! Як суседзям у вочы глядзець будзем? Каб вырашыць гэтае пытанне, дамовіліся нікому нічога не казаць.

Падалі дакументы, падпісалі паперы. Каб жонка мела рацыю, дамовіліся: кажы на мужыка, што п'е, б'ецца, дзяцей б'е. Грошы дадому не прыносіць. Па бабах лётае. Тады хутчэй развядуць. Калі маёмасных пытанняў не існую. А іх не будзе.

Вось і дзень суда. Суддзя выглядаў вельмі прадстаўніча. Народныя засядацелі таксама ўнушалі гонар і павагу. Суддзя спытаўся ў жонкі: ці сапраўды гэта яна настойвае на разводзе?

— Так.

— А ў чым прычына? Гадавалі ж разам дзяцей? Жанчына разгубілася. Усё жыццё прамільгнула перад вачыма. І як прыйшоў на першае спатканне, і як дапамагаў у хаце і на агародзе, і як першынец нарадзіўся. Не спалі абое начамі. Пасля другое дзіцятка... Без мужыка дзе б яна была? Убачыўшы разгубленасць, народны засядацель пачаў падказваць:

— Мо' п'е?

— Не-е, — нерашуча сказала жанчына. Дзе ж у яе павернецца язык назваць свайго мужыка выпівохам?

— Ну, дык, можа, б'ецца ці лаецца? Мо' грошы не аддае?



Шлюб – не заўсёды толькі кветкі... Фота IREX ProMedia.

— За ўсе гадочкі ні разу пальцам не крануў, — як на духу сказала жанчына. І горда дадала: — А грошы з палучкі ў сям'ю нясе да капеечкі.

Суддзя вадзіў позіркам то па ёй, то па мужыку. А пасля на ўсю залу зароў:

— Дык чаго ж разводзішся, раз такі добры? Ды людзям галаву дурыш?

— А я, можа, перадумала! Дзе ж яшчэ калі такога знайду.

Жанчына ўскочыла, схапіла дакументы са стала. І хуценька выбегла з залы. Мужык спахмурнелы выйшаў сам. Яго праводзілі незразумелымі позіркамі народныя засядацелі.

А на прыступках суда яны ледзь не пасварыліся:

— Ну што ж ты галавой кіўнуць не магла?

— Ага! Кіўнеш тут! Тады грэх гэты мне за ўсё жыццё не спішацца. Як я на свайго мужычну буду напрасліну ўзводзіць. Лепш ты разводзься!

— Я не буду. Хопіць.

На тым і парашылі. А кватэру прыватызаваць знайшлася іншая магчымасць. Мне ж да душы ў гэтай гісторыі тое, што ад фіктыўнага разводу гэтая сям'я стала яшчэ мацнейшай. І хай так будзе. Здароўя вам дый шчасця. У сям'і.

Алесь РАЛАВЕЦ.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# Вячаслаў Акшаеў: «Імкнуцца да максімальнага выніку»



**– Раскажыце падрабязнасці Вашага прыходу ў маладзечанскі клуб.**

– Яшчэ ў кастрычніку была размова са старшынёй савета акцыянераў клуба Андрэем Балабіным. Тады я палічыў гэту прапанову несвоечасовай, бо на новае месца працы лепш прыходзіць у міжсезонні альбо ў перапынку паміж кругамі. Праўда, на фінішы чэмпіянату я кансультаваў каманду, даваў некаторыя парады Аляксандру Кісценю.

Канчатковае рашэнне прымалася не адразу. Мне хацелася пераканацца ў сур'ёзнасці намераў кіраўнікоў клуба і горада. Значны ўплыў аказалі загадчык аддзела па ФКСіТ Мікалай Шрымф і старшыня рэгіянальнай федэрацыі Альберт Дабранскі. Добрай была размова са старшынёй гарвыканкома Мікалаем Чурсіным, яго намеснікам Яфімам Ідэльчыкам. Сітуацыя праяснілася, калі генеральным дырэктарам стаў Алег Французаў.

Матэрыяльнае становішча цяпер у кожным горадзе вельмі складанае. Абяцаны аб'ём фінансавання наўрад ці дазволіць адразу займаць самыя высокія месцы, аднак існуе вялікая зацікаўленасць кіраўнікоў у стварэнні моцнага футбольнага клуба. Магчымасці для вучэбна-трэніровачнай работы ў горадзе нядрэнныя: прасторная зала ЗМК, басейн, база на стадыёне. Наша справа – працаваць, рыхтаваць каманду, добра гуляць у футбол.

Задачы ставіць яшчэ рана. Спачатку трэба пазбавіцца аўтсайдэрскага менталітэту, прынамсі не змагацца за выжыванне. А ў перспектыве... Я адразу сказаў футбалістам на сходзе, што ніякія месцы, акрамя прызавых, мне не патрэбныя, будзем імкнуцца да максімальнага выніку.

**– Як справы са складам?**

– Застаюцца ўсе гульцы, што заканчвалі чэмпіянат. Я ведаю іх магчымасці, бо назіраў матчы напрыканцы сезона. Натуральна, і раней сачыў за камандай як і за іншымі, калі працаваў прафесійным трэнерам. Пакуль крыху горш ведаю магчымасці маладых футбалістаў. Ставіцца задача, каб міма клуба не прайшоў ніводны з мясцовых таленавітых юнакоў. Буду ўважліва сачыць як за матчамі дубля, так і за "Забудовай", з галоўным трэнерам якой, Канстанцінам Харламавым, добра знаёмы.

Ужо прыехалі да нас на збор з Віцебска Аляксей Пазняк (1981, паўабаронца; 87 матчаў і 4 галы ў вышэйшай лізе, з іх летась 16 матчаў за "Лакаматыў-96" – тут і далей аўтарская статыстыка) і Арцём Косак (1977, абаронца; 70 і 2, з іх летась 8 і 1 за "Лакаматыў-96"; заканчваў сезон у мінскай "Дарыдзе", Д2), з Жодзіна Дзмітрый Шкуратаў (1979, паўабаронца; 12, з іх летась 1 за "Тарпеда") і Аляксей Крывіцкі (1982, абаронца; у вышэйшай лізе не гуляў), з Бабруйска Віктар Маляўка (1976, абаронца; 87 і 1, з іх летась 21 за "Белшыну"), з Гродна Васіль Смірных (1970, паўабаронца; 166 і 13, з іх летась 21 за "Нёман"). Усіх ведаю па сумеснай працы. Так, Смірных гуляў раней за "Белшыну", я ж увосень пасля ўходу з Бабруйска быў спартыўным дырэктарам жодзінскага "Тарпеда".

Былі запрошаны таксама Максім Разумаў і Вячаслаў Гормаш, але іх паклікалі на прагляд у Расію: Разумава – ва ўладзікаўказскую "Спартак-Аланію" з вышэйшай лігі, а Гормаша ў новакузнецкі "Кузбас", што выйшаў у першую лігу.

Трэніруюцца цяпер у Маладзечне былыя гульцы каманды Дзмітрый Кабельскі і Дзмітрый Акуліч.

Плануем запрасіць яшчэ аднаго галкіпера.

**– Трэнерскі штаб?**

– Застаецца трэнерам Аляксандр Кісцень. З дублем будуць працаваць Аляксандр Гармаза і Андрэй Найдзіч. Ёсць і новыя людзі. Старшым трэнерам будзе Ігар Гасюта. Трэнерам варатароў – Андрэй Любчанка. Урачом – Уладзімір Обухаў. Спартыўным дырэктарам – Ігар Старавойтаў. Усіх ведаю па сваёй мінулай рабоце. Дарэчы, я быў здзіўлены, што ў Маладзечне ніколі не было трэнера па варатарах. Думаю, Любчанку многія памятаюць па выступленнях за каманды Віцебска і Магілёва ў другой лізе СССР і ў чэмпіянаце Беларусі.

Застаецца масажыст Уладзімір Рабушка, будзем гутарыць пра дапамогу камандзе з яе былым урачом, мясцовым майстрам Сяргеем Пачкоўскім.

**– Планы падрыхтоўкі?**

– Два тыдні ў рэжыме двухразовых трэніровак правядзём у Маладзечне. У першых чыслах лютага плануем удзел на турніры ў Наваполацку. Зацверджанае фінансаванне на перадсезонную падрыхтоўку не дазваляе трэніравацца ў новым крытым манежы ў Мінску ці з'ездзіць на збор на поўдзень. Магчыма, у манежы з кімсьці згуляем, хаця мне не надта падабаюцца гульні ў памяшканні, бо ідзе нагрузка не на тыя групы мышцаў. Ну, а з'ездзім на збор, магчыма, у Польшчу ці Літву перад стартам чэмпіянату.

**– Пытанне наконт Вашай ранейшай працы. Чаму не складвалася як след у папярэдніх клубах?**

– Віцебск стаіць асобна. Гэта родны горад, але там проста махнулі рукою на футбол, што і пацвердзілася леташнім "вылетам" з вышэйшай лігі. У Гомелі і Бабруйску па першым часе ўсё было ў парадку, але потым, калі каманда дабівалася выніку, узнікалі фінансавыя праблемы, не выконваліся абяцанні перад футбалістамі.

**– А які наогул сэнс дабівацца высокага выніку, калі пасля гэтага ўсё зробленае рушыцца?**

– Бывае, сам задаю сабе такое пытанне. Абавязкова трэба быць рэалістам. Магчыма, сапраўды лепш вытрымліваць нейкую сярэдзіну. З "Белшынай" у першы ж паўнацэнны сезон выйграў і Кубак, і чэмпіянат. Дасягнутае нельга пераўзысці, можна толькі паўтарыць. Там казалі, што гэтыя перамогі вельмі патрэбныя і супрацоўнікам шыннага камбіната, і ўсім жыхарам горада. Але за словамі з боку кіраўнікоў клуба не стаяла ніякіх рэальных справаў, таму ўсё абрушылася. Які сэнс працаваць? Футбол – для мяне — гэта і любімая работа, і крыніца стрэсаў, словам, паўнацэннае жыццё.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ "РГ"-СТАТЫСТЫКА

# Вячаслаў Акшаеў – самы паспяховы клубны трэнер Беларусі

Наступная табліца, якая паказвае дасягненні футбольных спецыялістаў краіны ў якасці галоўных трэнераў клубных каманд, з'яўляецца цалкам эксклюзіўным матэрыялам "РГ". Падобнай статыстыкі не было ні ў якіх рэспубліканскіх спартыўных газетах.

| Пос-пехі | Трэнеры | Цяперашні занятак | Дасягненні | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | Вячаслаў Акшаеў | Галоўны трэнер "Маладзечна-2000" | 1994/95, "серабро" "Дзвіна" (Віцебск) | 1997, "бронза" "Лакаматыў-96" (Віц.) | 1997/98, Кубак "Лакаматыў-96" (Віц.) | 1999, "бронза" "Гомель" | 2000/01, Кубак "Белшына" (Бабр.) | 2001, "золата" "Белшына" (Бабр.) |
| 6 | Юрый Пунтус | Галоўны трэнер БАТЭ (Барысаў) | 1998, "серабро" БАТЭ (Барысаў) | 1999, "золата" БАТЭ (Барысаў) | 2000, "серабро" БАТЭ (Барысаў) | 2001, "бронза" БАТЭ (Барысаў) | 2001/02, фінал Кубка БАТЭ (Барысаў) | 2002, "золата" БАТЭ (Барысаў) |
| 6 | Іван Шчокін | Загінуў у 2000-ым годзе | 1992/93, "бронза" "Дынама-93" (Мінск) | 1993/94, "серабро" "Дынама-93" (Мінск) | 1994/95, "золата" "Дынама" (Мінск) | 1995-вос., "золата" "Дынама" (Мінск) | 1995/96, фінал Кубка "Дынама" (Мінск) | 1996, "серабро" "Дынама" (Мінск) |
| 5 | Міхаіл Вергеенка | Старшыня сталічнай федэрацыі футбола | 1992-вясна, "золата" "Дынама" (Мінск) | 1992, Кубак "Дынама" (Мінск) | 1992/93, "золата" "Дынама" (Мінск) | 1993/94, Кубак "Дынама" (Мінск) | 1993/94, "золата" "Дынама" (Мінск) | |
| 4 | Анатоль Юрэвіч | Кіраўнік трэнераў "Лакаматыў" (Мінск) | 1995-вос., "серабро" МВКЦ (Мазыр) | 1995/96, Кубак МВКЦ (Мазыр) | 1996, "золата" МВКЦ (Мазыр) | 1999/00, фінал Кубка "Тарпеда-МАЗ" (Мін.) | | |
| 3 | Людас Румбуціс | Пакуль у футболе не працуе | 1996/97, фінал Кубка "Дынама-93" (Мінск) | 1998, "бронза" "Белшына" (Бабр.) | 1998/99, Кубак "Белшына" (Бабр.) | | | |

* Таксама па 3 поспехі маюць Аляксандр Кузняцоў (1999-2000 годы; мазырская "Славія"), Валерый Стральцоў (1992 і 1998 годы; магілёўскі "Днепр-Трансмаш"), Віктар Сокал (1994-1995 годы; "Дынама-93").

Дасягненні Шчокіна і Вергеенкі звязаны з пачаткам дзевяностых гадоў, калі мінскія дынамаўцы былі гэткім суперклубам з вельмі моцным складам. Поспехі Пунтуса неаддзялімыя ад поспехаў новага фінансавага суперклуба (па беларускіх мерках) БАТЭ. Акшаеў жа заваёўваў тытулы з рознымі камандамі ў розныя гады, што характарызуе ягоны прафесіяналізм з самага лепшага боку.

Чаму пры аднолькавай колькасці поспехаў Акшаеў стаіць вышэй Пунтуса? Таму што бярэцца на ўвагу якасць поспехаў. У Акшаева тры перамогі (адно "золата" і два Кубкі), а ў Пунтуса дзве перамогі (два "золата").

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ АДЗІНАБОРСТВЫ

# Паўтары сотні прызёраў і фіналістаў

**ЧЫСЦЬ. Адзначыў дзесяцігоддзе свайго існавання клуб адзінаборстваў "Гладыятар". Мэтамі гэтага спартыўнага клуба з'яўляецца фізкультурна-аздараўленчая работа і патрыятычнае выхаванне сярод моладзі.**

Хлопцы авалодваюць навыкамі амаль усіх відаў адзінаборстваў: тайландскі бокс, кікбоксінг, бокс, рукапашны бой, ушу. Найбольш падрыхтаваныя выступаюць нават у прафесійных спаборніцтвах па баях без правілаў. Упор жа робіцца на навучанне тайландскаму боксу. За 10 год падрыхтавана 48 чэмпіёнаў краіны сярод дарослых, юніёраў, юнакоў і кадэтаў, а фіналістаў і прызёраў – 157. На чэмпіянатах свету і Еўропы, Кубках свету заваявана 27 медалёў. Так, у 2002 годзе двое выхаванцаў сталі чэмпіёнамі Еўропы, і адзін – чэмпіёнам свету.

## Міхаіл Панцюхоў і яго сыны

Арганізатарам "Гладыятара" з'яўляецца Міхаіл Панцюхоў. Ён нарадзіўся ў Расіі (Сураж Бранскай вобласці) у 1950 годзе. Пачаў займацца боксам на Украіне (Перавальск Луганскай вобласці). У маладосці давялося нават папрацаваць у шахце.

Армейскую службу прайшоў у групе савецкіх войскаў у спартроце ў Польшчы. Так атрымалася, што выступаў там за мясцовы прафесійны баксёрскі клуб. Правёў на прафесійным рынгу 27 баёў у катэгорыях 54 кг і 57 кг, з'яўляецца майстрам спорту па боксе.

Потым вучыўся ў Мінскім інстытуце фізкультуры, які скончыў у 1977 годзе. Працаваў у гомельскай трэнерскай брыгадзе, рыхтаваў баксёраў. У 1991 годзе пераехаў з сям'ёй у Чысць. Пачынаў тут з навучання кікбоксінгу, паступова перайшлі на тайландскі бокс. Трэніруе зараз у Чысці бясплатна, а грошы зарабляе ў Мінску як трэнер зборнай краіны.

Сын Сяргей закончыў тую ж ВНУ з чырвоным дыпломам па спецыяльнасці "інструктар па нетрадыцыйных метадах аздараўлення", працуе трэнерам у клубе. Сын Аляксандр вучыцца ў гуманітарным эканамічным інстытуце. Ён чэмпіён свету, дзевяціразовы чэмпіён краіны.

## Чэмпіёны з падвальнага памяшкання

Раней у Чысці была магчымасць займацца ў добрай зале, зараз жа прыходзіцца выкарыстоўваць непрыстасаванае памяшканне. А, напрыклад, Сяргей трэніруе ў Маладзечне ў падвальным памяшканні. Таксама трэнерам у "Гладыятары" з'яўляецца былы вучань Міхаіла Панцюхова Сяргей Весялоў, ды рукапашнаму бою навучае Алег Пятровіч.

У 2002 годзе выхаванцы клуба дамагліся трох буйных поспехаў. Аляксандр Шалучанкаў стаў чэмпіёнам Еўропы па кік-джыцу сярод прафесіяналаў. Ён выйграў 15-хвілінны тытульны бой на Украіне. Эдуард Вазновіч выйграў чэмпіянат Еўропы па тайландскім боксе ў суперцяжкай вазе, які праходзіў у Італіі. Ён там перамог у двух баях, а яшчэ адзін сапернік зняўся з турніру. Аляксандр Панцюхоў жа пасля трох выйграных баёў у Югаславіі атрымаў права называцца чэмпіёнам свету па тайландскім боксе.

Трэба адзначыць, што сам Міхаіл Панцюхоў за мяжу амаль не ездзіць, яго байцы робяць гэта часцей. Іх віды спорту не з'яўляюцца алімпійскімі, фінансаванне абмежаванае, на месца спаборніцтваў прыходзіцца выязджаць без трэнера.

**Працяг будзе.**

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

